№ 46 (931) 9 снежня 2015

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Кіраўніцтва расійскай пракуратуры вяло бізнэс з бандай забойцаў



Старонка 12

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» — гэта ваша ніва. **Старонка 2.**

# Алексіевіч няма

Дзяржаўныя СМІ замаўчалі і нобелеўскую лекцыю Святланы Алексіевіч, і яе прэс-канферэнцыі. Ні разу не запрасілі яе ў тэлеэфір БТ і АНТ, ні разу не прагучала яна ў радыё. Дайшла да абсурду «беларуская мадэль». Ні большая частка народу, ні геніі яго не маюць, значыць, права голасу. Не тое што вырашальнага — нават проста выказацца не даюць. Тым часам свет слухаў Алексіевіч. Нобелеўская лекцыя — **старонкі 2—3**.




REUTERS

# Нафта — $40

Кошт бараля нафты маркі *Brent* апусціўся да $40,1 — гэта мінімум з 2009 года. Абвал цэн на нафту звязаны з сустрэчай АПЕК, падчас якой краіны не змаглі дамовіцца аб абмежаванні здабычы нафты. Зрэшты, краіны, якія не ўваходзяць у АПЕК — Расія і ЗША, — таксама сваю долю рынку саступаць не збіраюцца і здабычу трымаюць на ўзроўні. У сувязі з гэтым перспектывы для рынку нафты выглядаюць праблематычна.

Лішак нафты на сусветным рынку не скарачаецца, запасы практычна дасягнулі рэкорду, а аб'ём перавышае сусветнае спажыванне за месяц.

Чарговы абвал нафты аўтаматычна ўдарыў па расійскім рублі. Даляр у Расіі ўзняўся да 70 рублёў.Гэта адбілася і на беларускай эканоміцы. Даляр у абменніках ужо каштуе 18 300 рублёў.

**ЯМ**

# Святлана Алексіевіч.

## Нобелеўская лекцыя беларускай лаўрэаткі.

Я стаю на гэтай трыбуне не адна... Вакол мяне галасы, сотні галасоў, яны заўсёды са мной. З майго дзяцінства. Я жыла ў вёсцы. Мы, дзеці, любілі гуляць на вуліцы, але ўвечары нас як магнітам цягнула да лавак, на якіх збіраліся каля сваіх дамоў або хат, як кажуць у нас, стомленыя бабы. Ні ў кога з іх не было мужоў, бацькоў, братоў, я не памятаю мужчын пасля вайны ў нашай вёсцы — падчас Другой сусветнай вайны ў Беларусі на фронце і ў партызанах загінуў кожны чацвёрты беларус. Наш дзіцячы свет пасля вайны — гэта быў свет жанчын. Больш за ўсё мне запомнілася, што жанчыны гаварылі не пра смерць, а пра каханне. Распавядалі, як развітваліся ў апошні дзень з каханымі, як чакалі іх, як дагэтуль чакаюць. Ужо гады прайшлі, а яны чакалі: «Хай без рук, без ног вернецца, я яго на руках насіць буду». Без рук... без ног... Здаецца, я з дзяцінства ведала, што такое каханне...

Вось толькі некалькі сумных мелодый з хору, які я чую...

Першы голас:

«Нашто табе гэта ведаць? Гэта так сумна. Я свайго мужа на вайне сустрэла. Была танкісткай. Да Берліна дайшла. Памятаю, як стаім, ён яшчэ мне не муж тады быў, каля рэйхстага, і ён мне кажа: «Давай пажэнімся. Я цябе кахаю». А мяне такая крыўда ўзяла пасля гэтых слоў — мы ўсю вайну ў гразі, у пыле, у крыві, вакол адзін мат. Я яму адказваю: «Ты спачатку зрабі з мяне жанчыну: дары кветкі, кажы ласкавыя словы, вось я дэмабілізуюся і сукенку сабе пашыю». Мне нават ударыць хацелася яго ад крыўды. Ён гэта ўсё адчуў, а ў яго адна шчака была абпаленая, у рубцах, і я бачу на гэтых рубцах слёзы. «Добра, я выйду за цябе замуж». Сказала так... сама не паверыла, што гэта сказала... Вакол сажа, бітая цэгла — адным словам, вайна вакол...»

Другі голас:

«Жылі мы каля Чарнобыльскай атамнай станцыі. Я працавала кандытарам, піражкі ляпіла. А мой муж быў пажарнікам. Мы толькі пажаніліся, хадзілі нават у краму, узяўшыся за рукі. У дзень, калі выбухнуў рэактар, муж якраз дзяжурыў у пажарнай частцы. Яны паехалі на выклік у сваіх кашулях, хатняй вопратцы, выбух на атамнай станцыі, а ім ніякага спецадзення не выдалі. Так мы жылі... Вы ведаеце... Усю ноч яны тушылі пажар і атрымалі радыядозы, несумяшчальныя з жыццём. Раніцай іх на самалёце адразу павезлі ў Маскву. Вострая прамянёвая хвароба... Чалавек жыве ўсяго некалькі тыдняў... Мой моцны быў, спартовец, памёр апошні. Калі я прыехала, мне сказалі, што ён ляжыць у спецыяльным боксе, туды нікога не пускаюць. «Я яго кахаю», — прасіла я. — «Іх там салдаты абслугоўваюць. Куды ты?» — «Кахаю». Мяне ўгаворвалі: «Гэта ўжо не каханы чалавек, а аб'ект, які падлягае дэзактывацыі. Разумееш?» А я адно сабе паўтарала: кахаю, кахаю... Ноччу па пажарнай лесвіцы падымалася да яго... Або ноччу вахцёраў прасіла, грошы ім плаціла, каб мяне прапускалі... Я яго не пакінула, да канца была з ім... Пасля яго смерці... праз некалькі месяцаў нарадзіла дзяўчынку, яна пражыла ўсяго некалькі дзён. Яна... Мы яе так чакалі, а я яе забіла... яна мяне выратавала, увесь радыеўдар яна прыняла на сябе. Такая маленькая... Крахатулечка... Але я любіла іх дваіх. Хіба можна забіць любоўю? Чаму гэта побач — каханне і смерць? Заўсёды яны разам. Хто мне растлумачыць? Поўзаю ля магілы на каленках...»

Трэці голас:

«Як я першы раз забіў немца... Мне было дзесяць гадоў, партызаны ўжо бралі мяне з сабой на заданні. Гэты немец ляжаў паранены... Мне сказалі забраць у яго пісталет, я падбег, а немец учапіўся ў пісталет дзвюма рукамі і водзіць перад маім тварам. Але ён не паспявае першы стрэліць — паспяваю я...

Я не спалохаўся, што забіў... І ў вайну яго не ўспамінаў. Вакол было шмат забітых, мы жылі сярод забітых. Я здзівіўся, калі праз шмат гадоў раптам з'явіўся сон пра гэтага немца. Гэта было нечакана... Сон прыходзіў і прыходзіў да мяне... То я лячу, і ён мяне не пускае. Вось падымаешся... Ляціш... ляціш... Ён даганяе, і я падаю разам з ім. Правальваюся ў нейкую яму. То я хачу ўстаць... падняцца... А ён не дае... Праз яго я не магу паляцець...

Той самы сон... Ён мучыў мяне дзясяткі гадоў...

Я не магу свайму сыну расказаць пра гэты сон. Сын быў маленькі — я не мог, чытаў яму казкі. Сын ужо вырас — усё роўна не магу...»

Флабэр казаў пра сябе, што ён чалавек-пяро, я магу сказаць пра сябе, што я чалавек-вуха. Калі я іду па вуліцы і да мяне прарываюцца нейкія словы, фразы, воклічы, заўсёды думаю: колькі ж раманаў бясследна знікаюць у часе. У цемры. Ёсць тая частка чалавечага жыцця — размоўная — якую нам не ўдаецца адваяваць для літаратуры. Мы яе яшчэ не ацанілі, не здзіўленыя і не захопленыя ёю. А мяне яна заваражыла і зрабіла сваёй палоннай. Я люблю, як гаворыць чалавек... Люблю адзінокі чалавечы голас. Гэта мая самая вялікая любоў і жарсць.

Мой шлях на гэтую трыбуну быў даўжынёю амаль сорак гадоў — ад чалавека да чалавека, ад голасу да голасу. Не магу сказаць, што ён заўсёды быў мне пад сілу, гэты шлях: шмат разоў я была ўзрушаная і напалоханая чалавекам, адчувала захапленне і агіду, хацелася забыць тое, што я пачула, вярнуцца ў той час, калі была яшчэ ў няведанні. Плакаць ад радасці, што я ўбачыла чалавека цудоўным, я таксама не раз хацела.

Я жыла ў краіне, дзе нас з дзяцінства вучылі паміраць. Вучылі смерці. Нам казалі, што чалавек існуе, каб аддаць сябе, каб згарэць, каб ахвяраваць сабой. Вучылі любіць чалавека са зброяй. Калі б я вырасла ў іншай краіне, то я б не змагла прайсці гэты шлях. Зло бязлітаснае, ад яго трэба мець прышчэпку. Але мы выраслі сярод катаў і ахвяраў. Хай нашы бацькі жылі ў страху і не ўсё нам расказвалі, а часцей нічога не расказвалі, але само паветра нашага жыцця было атручана гэтым. Зло ўвесь час падглядала за намі.

Я напісала пяць кніг, але мне здаецца, што ўсё гэта адна кніга. Кніга пра гісторыю адной утопіі...

Варлам Шаламаў пісаў: «Я быў удзельнікам велізарнай прайгранай бітвы за сапраўднае абнаўленне чалавецтва». Я аднаўляю гісторыю гэтай бітвы, яе перамогі і яе паразы. Як хацелі пабудаваць Царства Нябеснае на зямлі. Рай! Горад сонца! А скончылася тым, што засталося мора крыві, мільёны загубленых чалавечых жыццяў. Але быў час, калі ніводная палітычная ідэя XX стагоддзя не была параўнальная з камунізмам (і з Кастрычніцкай рэвалюцыяй як яе сімвалам), не прыцягвала заходніх інтэлектуалаў і людзей ва ўсім свеце мацней і ярчэй. Раймон Арон называў расейскую рэвалюцыю «опіумам для інтэлектуалаў». Ідэі аб камунізме як найменей дзве тысячы гадоў. Мы знойдзем яе ў Платона — у вучэннях аб ідэальнай і правільнай дзяржаве, у Арыстафана — у марах пра час, калі «ўсё стане супольным»... У Томаса Мора і Тамаза Кампанэла... Пазней у Сэн-Сімона, Фур'е і Оўэна. Нешта ёсць у расейскім духу такое, што прымусіла паспрабаваць зрабіць гэтыя мары рэальнасцю.

Дваццаць гадоў таму мы правялі «чырвоную» імперыю з праклёнамі і са слязьмі. Сёння ўжо можам паглядзець на нядаўнюю гісторыю спакойна, як на гістарычны досвед. Гэта важна, таму што спрэчкі пра сацыялізм не сунімаюцца дагэтуль. Вырасла новае пакаленне, у якога іншая карціна свету, але нямала маладых людзей зноў чытаюць Маркса і Леніна. У расейскіх гарадах адкрываюць музеі Сталіна, ставяць яму помнікі.

«Чырвонай» імперыі няма, а «чырвоны» чалавек застаўся. Працягваецца.

Мой бацька, ён нядаўна памёр, да канца быў верным камуністам. Захоўваў свой партыйны білет. Я ніколі не магу вымавіць слова «савок», тады мне давялося б так назваць свайго бацьку, родных, знаёмых людзей. Сяброў. Яны ўсе адтуль — з сацыялізму. Сярод іх шмат ідэалістаў. Рамантыкаў. Сёння іх называюць па-іншаму: рамантыкі рабства. Рабы ўтопіі. Я думаю, што ўсе яны маглі б пражыць іншае жыццё, але пражылі савецкае. Чаму? Адказ на гэтае пытанне я доўга шукала — аб'ездзіла велізарную краіну, якая нядаўна звалася СССР, запісала тысячы стужак. То быў сацыялізм і было проста наша жыццё. Па макулінках, па драбочках я збірала гісторыю «хатняга», «унутранага» сацыялізму. Тое, як ён жыў у чалавечай душы. Мяне прыцягвала вось гэтая маленькая прастора — чалавек... адзін чалавек. Насамрэч там усё і адбываецца.

Адразу пасля вайны Тэадор Адорна быў узрушаны: «Пісаць вершы пасля Асвенціма — гэта варварства». Мой настаўнік Алесь Адамовіч, чыё імя хачу назваць сёння з удзячнасцю, таксама лічыў, што пісаць прозу пра кашмары XX стагоддзя — блюзнерства. Тут нельга выдумляць. Праўду трэба даваць як яна ёсць. Патрабуецца «звышлітаратура». Гаварыць павінен сведка. Можна ўспомніць і Ніцшэ з яго словамі, што ніводзін мастак не вытрымае рэальнасці. Не падніме яе.

Заўсёды мяне мучыла, што праўда не ўмяшчаецца ў адно сэрца, у адзін розум. Што яна нейкая раздробленая, яе шмат, яна розная і рассыпаная ў свеце. У Дастаеўскага ёсць думка, што чалавецтва ведае пра сябе больш, значна больш, чым яно паспела зафіксаваць у літаратуры. Што раблю я? Я збіраю штодзённасць пачуццяў, думак, словаў. Збіраю жыццё свайго часу. Мяне цікавіць гісторыя душы. Побыт душы. Тое, што вялікая гісторыя звычайна прапускае, да чаго ставіцца з пагардай. Займаюся прапушчанай гісторыяй. Не раз чула і цяпер чую, што гэта не літаратура, гэта дакумент. А што такое літаратура сёння? Хто адкажа на гэтае пытанне? Мы жывём хутчэй, чым раней. Змест ірве форму. Ломіць і змяняе яе. Усё выходзіць з сваіх берагоў: і музыка, і жывапіс, і ў дакуменце слова вырываецца за межы дакумента. Няма межаў паміж фактам і выдумкай, адно перацякае ў другое. Нават сведка не бесстаронні. Распавядаючы, чалавек творыць, ён змагаецца з часам, як скульптар з мармурам. Ён — акцёр і творца.

Мяне цікавіць маленькі чалавек. Маленькі вялікі чалавек, так я б сказала, таму што пакуты яго павялічваюць. Ён сам у маіх кнігах распавядае сваю маленькую гісторыю, а разам са сваёй гісторыяй і вялікую. Што адбылося і адбываецца з намі, яшчэ не асэнсавана, трэба вымавіць. Для пачатку хаця б вымавіць. Мы гэтага баімся, пакуль не ў стане справіцца са сваім мінулым. У Дастаеўскага ў «Бесах» Шатаў кажа Стаўрогіну перад пачаткам гутаркі: «Мы дзве істоты, што сышліся ў бязмежнасці... апошні раз у свеце. Пакіньце ваш тон і вазьміце чалавечы! Загаварыце хоць раз голасам чалавечым».

Прыблізна так пачынаюцца ў мяне размовы з маімі героямі. Вядома, чалавек кажа са свайго часу, ён не можа гаварыць з ніадкуль! Але прабіцца да чалавечай душы цяжка, яна засмечаная забабонамі стагоддзя, яго прыхільнасцямі і падманамі. Тэлевізарам і газетамі.

Мне хацелася б узяць некалькі старонак са сваіх дзённікаў, каб паказаць, як рухаўся час... як памірала ідэя... Як я ішла па яе слядах...

### 1980—1985 гады

Пішу кнігу пра вайну... Чаму пра вайну? Таму што мы ваенныя людзі — мы або ваявалі, або рыхтаваліся да вайны. Калі прыгледзецца, то мы ўсе думаем паваеннаму. Дома, на вуліцы. Таму ў нас так танна каштуе чалавечае жыццё. Усё, як на вайне.

Пачынала з сумневаў. Ну, яшчэ адна кніга пра вайну... Навошта?

У адной з журналісцкіх паездак я сустрэлася з жанчынай, яна была на вайне санінструктарам. Расказала: ішлі яны ўзімку праз Ладажскае возера, праціўнік заўважыў рух і пачаў абстрэльваць. Коні, людзі сыходзілі пад лёд. Адбывалася ўсё ноччу, і яна, як ёй здалося, схапіла і пачала цягнуць да берага параненага. «Валаку яго мокрага, голага, думала, вопратку сарвала, — расказвала. — А на беразе выявіла, што прыцягнула велізарную параненую бялугу. І загнула такім трохпавярховым матам — людзі пакутуюць, а звяры, птушкі, рыбы — за што? У іншай паездцы я пачула апавяданне санінструктара кавалерыйскага эскадрона, як падчас бою прыцягнула яна ў варонку параненага немца, але што гэта немец, яна выявіла ўжо ў варонцы, нага ў яго перабіта, сцякае крывёй. Гэта ж вораг! Што рабіць? Там, наверсе, свае хлопцы гінуць! Але яна перавязвае гэтага немца і паўзе далей. Прыцягвае рускага салдата, ён непрытомны, калі ачуньвае, хоча забіць немца, а той, калі прыходзіць у прытомнасць, хапаецца за аўтамат і хоча забіць рускага. «То аднаму па мордзе дам, то другому. Ногі ў нас, — успаміпала, — усё ў крыві. Кроў перамяшалася».

Гэта была вайна, якую я не ведала. Жаночая вайна. Не пра герояў. Не пра тое, як адны людзі геранічна забівалі іншых людзей. Запомнілася жаночае галашэнне: «Ідзеш пасля бою па полі. А яны ляжаць... Усе маладыя, такія прыгожыя. Ляжаць і ў неба глядзяць. І адных, і другіх шкада». Вось гэта «і адных, і другіх» падказала мне, пра што будзе мая кніга. Пра тое, што вайна — гэта забойства. Так гэта засталося ў жаночай памяці. Толькі што чалавек усміхаўся, курыў — і ўжо яго няма. Больш за ўсё жанчыны кажуць пра знікненне, пра тое, як хутка на вайне ўсё ператвараецца ў нішто. І чалавек, і чалавечы час. Так, яны самі прасіліся на фронт, у 17—18 гадоў, але забіваць не хацелі. А памерці былі гатовыя. Памерці за Радзіму. З гісторыі словаў не выкінеш — за Сталіна таксама.

Кнігу два гады не друкавалі, яе не друкавалі да перабудовы. Да Гарба-

# Аб прайгранай бітве

чова. «Пасля вашай кнігі ніхто не пойдзе ваяваць, — вучыў мяне цэнзар. — Ваша вайна страшная. Чаму ў вас няма герояў?» Герояў я не шукала. Я пісала гісторыю праз расказ нікім не заўважанага яе сведкі і ўдзельніка. Яго ніхто ніколі не распытваў. Што думаюць людзі, проста людзі пра вялікія ідэі — мы не ведаем. Адразу пасля вайны чалавек расказаў бы адну вайну, праз дзясяткі гадоў іншую, вядома, у яго нешта мяняецца, таму што ён складае ва ўспаміны ўсё сваё жыццё. Усяго сябе. Тое, як ён жыў гэтыя гады, што чытаў, бачыў, каго сустрэў. У што верыць. Нарэшце, шчаслівы ён або нешчаслівы. Дакументы — жывыя істоты, яны змяняюцца разам з намі...

Але я абсалютна ўпэўненая, што такіх дзяўчатак, як ваенныя дзяўчаткі 41-га года, больш ніколі не будзе. Гэта быў самы высокі час «чырвонай» ідэі, нават вышэйшы, чым рэвалюцыя і Ленін. Іх Перамога дагэтуль засланяе сабой ГУЛАГ. Я бясконца люблю гэтых дзяўчатак. Але з імі нельга было пагаварыць пра Сталіна, пра тое, як пасля вайны цягнікі з пераможцамі ішлі ў Сібір, з тымі, хто быў смялейшы. Астатнія вярнуліся і маўчалі. Аднойчы я пачула: «Свабоднымі мы былі толькі ў вайну. На перадавой». Наш галоўны капітал — пакута. Не нафта, не газ — пакута. Гэта адзінае, што мы ўвесь час здабываем. Увесь час шукаю адказ: чаму нашы пакуты не канвертуюцца ў свабоду? Няўжо яны марныя? Меў рацыю Чаадаеў: Расея — краіна без памяці, прастора татальнай амнезіі, цнатлівая свядомасць для крытыкі і рэфлексіі.

Вялікія кнігі валяюцца пад нагамі...




## 1989 год

Я ў Кабуле. Я не хацела больш пісаць пра вайну. Але вось я на сапраўднай вайне. З газеты «Праўда»: «Мы дапамагаем братняму афганскаму народу будаваць сацыялізм». Усюды людзі вайны, рэчы вайны. Час вайны.

Мяне ўчора не ўзялі ў бой: «Заставайцеся ў гатэлі, паненка. Адказвай пасля за вас». Я сяджу ў гатэлі і думаю: нешта ёсць амаральнае ў разглядванні чужой мужнасці і рызыкі. Другі тыдзень я ўжо тут і не магу вызваліцца ад пачуцця, што вайна — спараджэнне мужчынскай прыроды, для мяне неспасціжнай. Але будзённасць вайны грандыёзная. Я адкрыла для сябе, што зброя прыгожая: аўтаматы, міны, танкі. Чалавек шмат думаў над тым, як лепш забіць іншага чалавека. Вечная спрэчка паміж ісцінай і прыгажосцю. Мне паказалі новую італьянскую міну, мая «жаночая» рэакцыя: «Прыгожая. Чаму яна прыгожая?» Па-вайсковаму мне дакладна патлумачылі, што, калі на гэтую міну наехаць або наступіць вось так... пад такім вось вуглом... ад чалавека застанецца паўвядра мяса. Пра ненармальнае тут кажуць як пра нармальнае, само сабой зразумелае. Маўляў, вайна... Ніхто не траціць розум ад гэтых карцін, што вось ляжыць на зямлі чалавек, забіты не стыхіяй, не злым лёсам, а іншым чалавекам.

Бачыла загрузку «чорнага цюльпана» (самалёт, які вязе на радзіму цынкавыя труны з загінулымі). Мёртвых часта адзяваюць у старую вайсковую форму яшчэ саракавых гадоў, з галіфэ, бывае, што і гэтай формы не хапае. Салдаты перагаворваліся паміж сабой: «У лядоўню прывезлі новых забітых. Быццам нясвежым кабаном пахне». Буду пра гэта пісаць. Баюся, што дома мне не павераць. У нашых газетах пішуць пра алеі дружбы, якія садзяць савецкія салдаты.

Размаўляю з хлопцамі, многія прыехалі добраахвотна. Прасіліся сюды. Заўважыла, што большасць з сем'яў інтэлігенцыі — настаўнікаў, лекараў, бібліятэкараў — адным словам, кніжных людзей. Шчыра марылі дапамагчы афганскаму народу будаваць сацыялізм. Цяпер смяюцца з сябе. Паказалі мне месца ў аэрапорце, дзе ляжалі сотні цынкавых трунаў, таямніча блішчалі на сонцы. Афіцэр, які суправаджаў мяне, не стрымаўся: «Можа, тут і мая труна... Засунуць туды... А за што я тут ваюю?» Тут жа спалохаўся сваіх слоў: «Вы гэта не запісвайце».

Ноччу мне сніліся забітыя, ва ўсіх былі здзіўленыя твары: як гэта я забіты? Няўжо я забіты?

Разам з медсёстрамі ездзіла ў шпіталь для мірных афганцаў, мы вазілі дзецям падарункі. Дзіцячыя цацкі, цукеркі, печыва. Мне дасталося штук пяць плюшавых мішак. Прыехалі ў шпіталь — доўгі барак, з пасцелі і бялізны ва ўсіх толькі коўдры. Да мяне падышла маладая афганка з дзіцем на руках, хацела нешта сказаць — за дзесяць гадоў тут усе навучыліся трохі размаўляць па-расейску, — я дала дзіцёнку цацку, ён узяў яе зубамі. «Чаму зубамі?» — здзівілася я. Афганка ссунула коўдрачку з маленькага цельца, хлопчык быў без абедзвюх рук: «Гэта твае рускія бамбілі». Хтосьці ўтрымаў мяне, я падала...

Я бачыла, як наш «Град» ператварае кішлак у перааранае поле. Была на афганскіх могілках, доўгіх як кішлак. Дзесьці пасярэдзіне могілак крычала старая афганка. Я ўспомніла, як у вёсцы пад Мінскам уносілі ў дом цынкавую труну і як выла маці. Гэта не чалавечы крык быў і не звярыны... Падобны да таго, што я чула на кабульскіх могілках...

Прызнаюся, я не адразу стала свабоднай. Я была шчырай са сваімі героямі, і яны давяралі мне. У кожнага з нас быў свой шлях да свабоды. Да Афганістана я верыла ў сацыялізм з чалавечым тварам. Адтуль вярнулася свабоднай ад усіх ілюзій. «Прабач мне, бацька, — сказала я пры сустрэчы, — ты выхаваў мяне з верай у камуністычныя ідэалы, але дастаткова адзін раз убачыць, як нядаўнія савецкія школьнікі, якіх вы з мамай вучыце (мае бацькі былі сельскія настаўнікі), на чужой зямлі забіваюць невядомых ім людзей, каб усе твае словы ператварыліся ў пыл. Мы — забойцы, тата, разумееш?!» Бацька заплакаў.

З Афганістана вярталася шмат вольных людзей. Але ў мяне ёсць і іншы прыклад. Там, у Афганістане, хлопец мне крычаў: «Што ты, жанчына, можаш зразумець пра вайну? Хіба людзі так паміраюць на вайне, як у кнігах і кіно? Там яны паміраюць прыгожа, а ў мяне ўчора сябра забілі, куля трапіла ў галаву. Ён яшчэ метраў дзесяць бег і лавіў свае мазгі...» А праз сем гадоў той самы хлопец, цяпер паспяховы бізнэсовец, любіць распавядаць пра Афган. Патэлефанаваў мне: «Навошта твае кнігі? Яны занадта страшныя». Гэта ўжо быў іншы чалавек, не той, якога я сустрэла сярод смерці і які не хацеў паміраць у дваццаць гадоў...

Я пыталася ў сябе, якую кнігу пра вайну я хацела б напісаць. Хацела б напісаць пра чалавека, які не страляе, не можа стрэліць у іншага чалавека, каму сама думка пра вайну прыносіць пакуты. Дзе ён? Я яго не сустрэла.

## 1990—1997 гады

Расейская літаратура цікавая тым, што яна адзіная можа расказаць пра ўнікальны досвед, праз які прайшла калісьці велізарная краіна. У мяне часта пытаюцца: чаму вы ўвесь час пішаце пра трагічнае? Таму што мы так жывём. Хоць мы жывём цяпер у розных краінах, але ўсюды жыве «чырвоны» чалавек. З таго жыцця, з тымі ўспамінамі.

Я доўга не хацела пісаць пра Чарнобыль. Я не ведала, як пра гэта напісаць, з якім інструментам і адкуль падступіцца? Імя маёй маленькай, закінутай у Еўропе краіны, пра якую свет раней амаль нічога не чуў, загучала на ўсіх мовах, а мы, беларусы, сталі чарнобыльскім народам. Першымі дакрануліся да невядомага. Зрабілася ясна: акрамя камуністычных, нацыянальных і новых рэлігійных выклікаў, наперадзе нас чакаюць больш лютыя і татальныя, але пакуль яшчэ схаваныя ад вока. Нешта ўжо пасля Чарнобыля прачынілася...

У памяці засталося, як стары таксіст адчайна вылаяўся, калі голуб стукнуўся аб лабавое шкло: «За дзень дзве-тры птушкі разбіваюцца. А ў газетах пішуць: сітуацыя пад кантролем».

У гарадскіх парках зграбалі лісце і везлі за горад, там лісце хавалі. Зразалі зямлю з заражаных плям і таксама хавалі — зямлю хавалі ў зямлі. Хавалі дровы, траву. Ва ўсіх былі крыху вар'яцкія твары. Распавядаў стары пчаляр: «Выйшаў раніцай у сад, чагосьці не хапае, нейкага знаёмага гуку. Ніводнай пчалы... Не чуваць ніводнай пчалы. Ніводнай! Што? Што такое? І на другі дзень яны не вылецелі, і на трэці... Потым нам паведамілі, што на атамнай станцыі — аварыя, а яна побач. Але доўга мы нічога не ведалі. Пчолы ведалі, а мы не». Чарнобыльская інфармацыя ў газетах была спрэс з ваенных словаў: выбух, героі, салдаты, эвакуацыя... На самой станцыі працаваў КДБ. Шукалі шпіёнаў і дыверсантаў, хадзілі чуткі, што аварыя — запланаваная акцыя заходніх спецслужбаў, каб падарваць лагер сацыялізму. У кірунку Чарнобыля рухалася вайсковая тэхніка, ехалі салдаты. Сістэма дзейнічала, як звычайна, па-вайсковаму, але салдат з новенькім аўтаматам у гэтым новым свеце быў трагічны. Усё, што ён мог, набраць вялікія радыядозы і памерці, калі вернецца дадому.

На маіх вачах дачарнобыльскі чалавек ператвараўся ў чарнобыльскага.

Радыяцыю нельга было ўбачыць, памацаць, пачуць яе пах... Такі знаёмы і незнаёмы свет ужо акружаў нас. Калі я паехала ў зону, мне хутка патлумачылі: кветкі рваць нельга, садзіцца на траву нельга, ваду з калодзежа не піць... Смерць таілася паўсюль, але гэта ўжо была нейкая іншая смерць. Пад новымі маскамі. У незнаёмым абліччы. Старыя людзі, якія перажылі вайну, зноў з'язджалі ў эвакуацыю — глядзелі на неба: «Сонца свеціць... Няма ні дыму, ні газу. Не страляюць. Ну, хіба гэта вайна? А трэба рабіцца ўцекачамі».

Раніцай усе прагна хапалі газеты і тут жа адкладалі іх з расчараваннем — шпіёнаў не знайшлі. Пра ворагаў народа не пішуць. Свет без шпіёнаў і ворагаў народа быў таксама незнаёмы. Пачыналася нешта новае. Чарнобыль услед за Афганістанам рабіў нас вольнымі людзьмі.

Для мяне свет рассунуўся. У зоне я не адчувала сябе ні беларускай, ні расейкай, ні ўкраінкай, а прадстаўніком біявіду, які можа быць знішчаны. Супалі дзве катастрофы: сацыяльная — сыходзіла пад ваду сацыялістычная Атлантыда, і касмічная — Чарнобыль. Падзенне імперыі хвалявала ўсіх: людзі былі заклапочаныя днём і бытам, на што купіць і як выжыць? У што верыць? Пад якія сцягі зноў стаць? Або трэба вучыцца жыць без вялікай ідэі? Апошняе нікому не знаёма, бо яшчэ ніколі так не жылі. Перад «чырвоным» чалавекам стаялі сотні пытанняў, ён перажываў іх у адзіноце. Ніколі ён не быў такі адзінокі, як у першыя дні свабоды. Вакол мяне былі ўзрушаныя людзі. Я іх слухала...

Закрываю свой дзённік...

Што з намі адбылося, калі імперыя ўпала? Раней свет дзяліўся: каты і ахвяры — гэта ГУЛАГ, браты і сёстры — гэта вайна, электарат — гэта тэхналогіі, сучасны свет. Раней наш свет яшчэ дзяліўся на тых, хто сядзеў і хто саджаў, сёння дзяленне на славянафілаў і заходнікаў, на нацыянал-здраднікаў і патрыётаў. А яшчэ на тых, хто можа купіць і хто не можа купіць. Апошняе, я б сказала, самае жорсткае выпрабаванне пасля сацыялізму, бо нядаўна ўсе былі роўныя. «Чырвоны» чалавек так і не здолеў увайсці ў тое царства свабоды, пра якое марыў на кухні. Расею падзялілі без яго, ён застаўся ні з чым. Зняважаны і абкрадзены. Агрэсіўны і небяспечны.

Што я чула, калі ездзіла па Расеі...

— Мадэрнізацыя ў нас магчымая шляхам шарашак і расстрэлаў.

— Расейскі чалавек быццам бы і не хоча быць багатым, нават баіцца. Чаго ж ён хоча? А ён заўсёды хоча аднаго: каб нехта іншы не зрабіўся багатым. Багацейшым, чым ён.

— Сумленнага чалавека ў нас не знойдзеш, а святыя ёсць.

— Нелупцаваных пакаленняў нам не дачакацца; расейскі чалавек не разумее свабоды, яму патрэбны казак і бізун.

— Два галоўныя расейскія словы: вайна і турма. Скраў, пагуляў, сеў... Выйшаў — і зноў сеў...

— Расейскае жыццё павінна быць злое, нікчэмнае, тады душа падымаецца, яна ўсведамляе, што не належыць гэтаму свету... Чым брудней і крывавей, тым больш для яе прасторы...

— Для новай рэвалюцыі няма ні сілы, ні нейкага вар'яцтва. Куражу няма. Расейскаму чалавеку патрэбная такая ідэя, каб мароз па скуры...

— Так наша жыццё і боўтаецца — паміж бардаком і баракам. Камунізм не памёр, нябожчык жывы.

Бяру на сябе смеласць сказаць, што мы змарнавалі свой шанец, які ў нас быў у 90-я гады. На пытанне, якой павінна быць краіна: моцнай або годнай, дзе людзям добра жыць, выбралі першы адказ — моцнай. Цяпер зноў час сілы. Расейцы ваююць з украінцамі. З братамі. У мяне бацька — беларус, маці — украінка. І так у многіх. Расейскія самалёты бамбуюць Сірыю...

Час надзеі змяніўся часам страху. Час павярнуў назад... Час сэканд-хэнд...

Цяпер я не ўпэўненая, што дапісала гісторыю «чырвонага» чалавека...

У мяне тры дамы: мая беларуская зямля — радзіма майго бацькі, дзе я пражыла ўсё жыццё, Украіна — радзіма маёй мамы, дзе я нарадзілася, і вялікая расейская культура, без якой я сябе не ўяўляю. Яны мне ўсе дарагія. Але цяжка ў наш час казаць пра любоў.

# Алексіевіч паляцела ў Стакгольм з сябрамі

Святлана Алексіевіч выправілася на самалёце з Мінска ў Стакгольм яшчэ 5 снежня.

Падтрымаць пісьменніцу вырашылі сябры. Разам з ёй паляцелі прафесар БДУ сацыёлаг Жанна Грышчанка, заснавальнік і саўладальнік партала tut.by Юры Зісер і ягоная жонка, выкладчыца Універсітэта культуры, культуролаг Юлія Чарняўская, маскоўскі выдавец Барыс Пастэрнак, журналістка Ядвіга Юферава. Усе яны выправіліся ў Швецыю за свой кошт. Некалькіх сваіх блізкіх — пляменніцу і яе дачку — Алексіевіч запрасіла сама і сама ж заплаціла за іхнюю паездку. На ўрачыстасцях у Стакгольме таксама былі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і ягоны намеснік Алесь Пашкевіч, а таксама старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец.

«Белавія» сваім рашэннем перасадзіла Святлану ў бізнэс-клас самалёта, а да борта яе даставілі на асобным аўтамабілі. Капітан самалёта публічна павіншаваў пісьменніцу з атрыманнем Нобелеўскай прэміі.

**ЯМ**




**Якія словы гучалі найчасцей?**

Нобелеўская лекцыя Святланы Алексіевіч была гуманістычнай па сваёй сутнасці. Пацвярджэнне гэтаму — частотнасць выкарыстання тых ці іншых словаў.

1. Чалавек/людзі — 71
2. Вайна — 47
3. Час — 22
4. Рускі — 20
5. Мір/свет — 17
6. Кніга — 14
7. Жыццё — 13

Словы Беларусь/беларус/беларускі ўзгадваліся ў лекцыі ўсяго 6 разоў.

Адмысловы строй для лаўрэаткі падрыхтаваў мадэльер Саша Варламаў.

## «Вам хацелася стогнаў? Гэта не пра Святлану»

Нобелеўская лекцыя Святланы Алексіевіч выклікала **гарачыя спрэчкі**.

Што ж, лекцыя сама па сабе добрая. Але, вядома, гэта прамова не беларускай пісьменніцы. Ператвараць гэтую лекцыю ў нейкі палітычны памфлет было б абсалютна недарэчна. Але пра Беларусь проста ўвогуле нічога амаль не было — толькі пра рускага чалавека, пра рускую літаратуру, пра Расію.

**Аляксандр Пашкевіч, гісторык**

У мяне няма расчаравання ад прамовы Алексіевіч, абсалютна. Бо чытаў яе кнігі і інтэрв'ю. І калі б яна выказала тое, што мы хацелі пачуць, магла б сказаць пра сябе словамі сваёй гераіні: «Гэта была не я». І паўтару: ніякая Шведская акадэмія нас не ўратуе. Толькі мы самі.

**Сяргей Навумчык, палітык**

Расчараваны. З іншага боку, а чаго гэта я сабе панапрыдумваў усялякага-рознага? Падставаў ніякіх і не было. Але мне верылася, што, зыходзячы з усведамлення значнасці моманту і адказнасці, лаўрэат скажа больш і канкрэтней, чым у шараговым інтэрв'ю. Але атрымалася меней. Карацей, з аднаго боку, лепшага слова за «прэсна» — не падабраць: бясконцая і невыразная, як дом на ўзбярэжжы Свіслачы, споведзь, і не надта шчырая прытым, як на мой слых.

**Стась Карпаў, блогер, дызайнер**

Для мяне лекцыя Алексіевіч была пра шлях да свабоды, да любові... ад мораку. Ад камуністычнага, савецкага (таго, які яна ведае, пражыла), але і не толькі, бо ён жа бывае розны. Спадзяюся, гэта і чапляе людзей па ўсім свеце, а не страшылкі пра савецкі час. Пра цяжкасць гэтага шляху, пра тое, што, на жаль, пакуты не канвертуюцца ў свабоду… Гэта пра агульначалавечае, такі індывідуальны шлях.




Многія кафэ арганізавалі публічны прагляд Нобелеўскай лекцыі Святланы Алексіевіч.

АЛЯКСАНДР ВАСЮКОВІЧ, TUT.BY

Для мяне шлях да свабоды ляжыць, прынамсі, праз нацыянальнае як вельмі важны складнік. Для Алексіевіч праз асобнага чалавека. У нас розная оптыка, але гэта не робіць для мяне развагі Алексіевіч пустымі ці варожымі, не вартымі таго, каб быць пачутымі, каб быць падуманымі. Бо гэты шлях так і не пройдзены.

**Тацццяна Вадалажская, сацыёлаг**

Мне сказалі: не глядзі водгукі ў фэйсбуку, не хвалюйся. Халодная, маўляў, чужая... Не наша, маўляў. А мне і няма чаго іх чытаць. Я была ў зале і бачыла слёзы на вачах мужчын, ужо не кажучы пра жанчын. Бачыла Святлану, якая старалася трымацца спакойна. Чула дрыжыкі пяшчоты і жалю ў яе голасе. І таму яна з дадатковым высілкам волі старалася казаць спакойна. І чула, як студэнты, якія разбягаліся пасля лекцыі, казалі: Беларусь, Беларусь… Людзі чакалі палітычных заклікаў. А яна, як і мае быць на Нобелеўскай лекцыі, казала аб сваёй прафесіі. Пра штосьці з таго, што хвалюе расчараваных, яна скажа ў банкетнай прамове, як і належыць. Не пра ўсё. Але ўсіх не пераканаеш. Але якім нявінна-нерэфлектуючым, якім абыякавым трэба быць, каб застацца абыякавым да болю за сваю краіну (ранейшую і сапраўдную), за чалавека, пра якога кажа Святлана? Краіна — гэта людзі. Вам хацелася стогнаў? Гэта не пра Святлану. Пра яе — мужнасць і годнасць.

**Юлія Чарняўская, культуролаг**

Найлепшае, што магла паказаць і паказала Святлана Алексіевіч у сваёй Нобелеўскай лекцыі, — гэта сябе такую, якая яна ёсць, а не такую, якую нехта хацеў пабачыць.

Яна сапраўды савецкі чалавек, як і яе героі. Яна толькі перастала ці перастае быць «чырвоным чалавекам». З лекцыі мы так і не зразумелі, ці мае для яе сэнс незалежная краіна Беларусь, якую яна прадстаўляе.

Яна не развіталася з Расіяй, каб цалкам прыйсці да Беларусі. Яна і не плануе гэтага рабіць, бо «руская культура» яе стварыла, а Беларусь — толькі «мая зямля».

У гэтым сэнсе Нобелеўская лекцыя прагучала як развітанне Алексіевіч з сабою ўчорашняй. Па духу гэта была ўчорашняя лекцыя з прыпахам нафталіну. Аўтарка сапраўды падобная да Лукашэнкі з яго непераадольнымі комплексамі «вялікай русской культуры» і Беларусі як «куска зямлі».

Лекцыя паказала, што гэты Нобель у разуменні лаўрэаткі — персанальна для Алексіевіч, а не для Беларусі — незалежнай еўрапейскай краіны з уласнай культурай. Але высокі статус зназакай нашай краіны даецца назаўжды. Магчыма, пасля гэтай развітальнай лекцыі мы пачуем некалі і прывітальную, заўтрашнюю, звернутую да новай Беларусі, яе культуры і мовы.

**Сяргей Дубавец, журналіст**

Так дзіўна чытаць, што таго ў Алексіевіч няма, а гэта значыць... Што туды не зазірнула, ад гэтага не адракláся... Зазірніце, адрачыцеся, зрабіце па-іншаму — і таксама атрымаеце Нобелеўскую прэмію. Наперад!

**Святлана Калінкіна, журналіст**

Этап «проста парадавацца» скончыўся 8 кастрычніка. Калі перамагае наша каманда ці наш палітык — мы дзень радуемся, а потым працягваем абмяркоўваць гульню каманды альбо праграму і дзеянні палітыка. Мы ж не лічым, што сваёй гістарычнай перамогай яны назаўжды паставілі сябе па-за крытыкай.

…Для чаго існуе публічная прамова нобелеўскага лаўрэата? Каб яе асэнсоўваць, аналізаваць, крытыкаваць (у сэнсе «літаратурнай крытыкі»). Так было з усімі прамовамі ўсіх нобелеўскіх пераможцаў. Назаўтра газеты ўсяго свету выйдуць з артыкуламі з крытычным аналізам прамовы Алексіевіч.

І толькі беларусы скажуць: а мы проста радуемся! Мы настолькі інфантыльныя, што любое выказванне, акрамя «ох і ах», — у нас лічыцца антыпатрыятычным. Мы такая маладая нацыя, што хочам толькі «проста парадавацца». «Вы проста зайздросціце», «спачатку дасягніце», «спачатку станьце нобелеўскім лаўрэатам, а потым крытыкуйце».

Гэта ж той самы статкавы інстынкт, від збоку — хто не захапляецца прамовай Алексіевіч, той адшчапенец і дэградант.

**Віталь Цыганкоў, журналіст**

## Сцісла

**Праваабаронцы: у Беларусі зноў з'явіўся палітвязень**

Такі статус атрымаў Міхаіл Жамчужны. Ён быў заснавальнікам установы «Платформ інавэйшн», якая займалася пытаннямі парушэння правоў асуджаных людзей. Жамчужны прысуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі за тое, што даў хабар міліцыянту ў абмен на інфармацыю, якая складае службовую таямніцу. Жамчужны спрабаваў здабыць інфармацыю пра смерць затрыманага ў віцебскім ізалятары.

**Авіябаза? Расія пакуль не дасць «крэдыт на стабільнасць»**

Рашэнне аб выдзяленні Беларусі новага крэдыту Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця адкладзенае, нягледзячы на тое, што Мінск знізіў запыт з $3 да $2 мільярдаў. Фармальна расейцы адмовілі, бо патрабуюць канкрэтных вынікаў ад рэалізацыі рэформаў, абяцаных беларускімі чыноўнікамі.

**«Народны рэферэндум» скончыўся**

Супольная ініцыятыва, створаная ў маі 2013 года рухам «За Свабоду», партыяй БНФ і «Гавары праўду», спыніла існаванне. Удзельнікі пакрыўдзіліся, што «Народны рэферэндум» фактычна ператварыўся ў выбарчую кампанію Тацццяны Караткевіч.

**Пад «Монай Лізай» яшчэ адзін партрэт?**

Цягам дзесяці гадоў французскі навуковец Паскаль Катэ вывучаў карціну «Мона Ліза» Леанарда да Вінчы, выкарыстоўваючы метад адлюстравання святла. Ён сцвярджае, што знайшоў пад карцінай яшчэ адзін партрэт. На рэканструкцыі відаць малюнак дзяўчыны, якая глядзіць у іншы бок. Акрамя таго, на карціне няма знакамітай усмешкі Моны Лізы.

**«Рускі свет» зарэгістраваў некамерцыйную арганізацыю**

Нацыянальна-вызваленчы рух («НОД-Беларусь»), які выступае за «рускі свет» і «традыцыйныя каштоўнасці», зарэгістраваў у Мінску інфармацыйна-асветніцкую ўстанову «Наша гісторыя». Удзельнікі руху вераць, што СССР быў развалены агрэсіўным Захадам, які ўвесь час так ці інакш супрацьстаіць «мірнай славянскай цывілізацыі».

**УШ, ЯМ**

## Самае чытанае на nn.by за 2 — 8 снежня

1. У інтэрнэт трапіла відэа непрыгожых паводзін Люсі Лушчык
2. У Мінску прайшла акцыя студэнтаў супраць увядзення аплаты за перадачы
3. Нобелеўская лекцыя Святланы Алексіевіч — поўны тэкст
4. Польскія спартсмены зняліся аголенымі для дабрачыннасці
5. Хлопец і дзяўчына раздзеліся на вачах у пакупнікоў у гандлёвым цэнтры Мінска
6. Хто ў Беларусі жыве не па сродках? КАРТА
7. Бойкі і тролінг ад «ціхароў»: ТОП момантаў студэнцкага пратэсту на відэа
8. На фота трапіла сляза міліцыянта падчас студэнцкай акцыі ў Мінску
9. Нарвегія і Беларусь: заробкі розняцца ў 12 разоў, а цэны?
10. Пуцін прыляцеў у Крым. Першае афіцыйнае фота

# Упершыню за апошнія гады запратэставалі студэнты

**У мінулую сераду студэнты БДУ зладзілі акцыю супраць платных пераздач. Міліцыі на ёй было як на сходах Статкевіча, а рэктар спалохаўся і не выйшаў да студэнтаў.**

Усё пачалося ў пачатку лістапада, калі адміністрацыя БДУ заявіла, што з 2016 года ва ўніверсітэце ўводзяцца платныя пераздачы.

Гэтае рашэнне прымалася без кансультацый са студэнтамі, якія ў выніку сабралі дзве з палowай тысячы подпісаў за адмену платных пераздач і стварылі рух «Студэнты супраць».

Але і тады адміністрацыя ніяк не адрэагавала. Больш за тое, актывісты БРСМ па ўказцы «зверху» пачалі цкаваць нязгодных з платнымі пераздачамі студэнтаў у інтэрнэце. Апроч таго, на іх ціснулі і ў самім універсітэце, пагражаючы пакараннем за актыўнасць.

Меркавался, што спачатку студэнты збяруцца ў скверы непадалёк ад галоўнага корпуса БДУ, адкуль і пойдуць да рэктара. Але за пару гадзінаў да сустрэчы стала вядома, што рэктар Абламейка да студэнтаў не выйдзе: маўляў, «каб пазбегнуць магчымых правакацый». Але студэнты не сталі адмяняць сход.

Тады ў БДУ шматкроць узмацнілі ахову — прайсці на тэрыторыю галоўнага корпуса без студэнцкага білета ці пасведчання супрацоўніка было немагчыма, а ўжо за гадзіну да студэнцкага сходу тэрыторыя БДУ і прылеглага сквера была запоўнена людзьмі ў цывільным і з рацыямі.

Агулам на акцыю прыйшло студэнтаў 80. Чаму так мала? Передусім, праз страх рэпрэсій: некаторыя ўдзельнікі прызнаваліся, што і самі баяцца адлічэння, а іх аднагрупнікі, маўляў, яшчэ больш, таму яны і не пайшлі, хоць салідарных больш за дзве тысячы. Таксама сярод студэнтаў не было лідара — уся каардынацыя вялася праз суполку укантакце, куды яе адміністратары пісалі ананімна.

Калі тыя людзі пабачылі, што людзей ужо трохі сабралося, то напісалі, што трэба ісці да галоўнага ўвахода і патрабаваць сустрэчы з рэктарам.

Так усе ўдзельнікі акцыі разам з журналістамі абышлі БДУ і сабраліся ля зачыненых «на рамонт» дзвярэй галоўнага корпуса. Тут студэнты пачалі крычаць «Рэктар, выходзь!», пасля чаго ў натоўпе з'явіліся банеры — іх прынеслі анархісты, якія вырашылі падтрымаць студэнтаў.

Потым актывісты «Студэнтаў супраць» зладзілі яшчэ адзін перформанс — яны расклалі дыван на прыступках БДУ і пачалі крычаць: «Рэктар, на дыван!». Крычалі так гучна, што з вокнаў пачалі вызіраць іншыя студэнты, якія былі на парах.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Неўзабаве з'явіліся і міліцыянты ў форме, якія паспрабавалі скласці пратакол на аднаго з самых актыўных удзельнікаў акцыі — Глеба Вайкуля, студэнта 2 курса.

Але хлопец не хацеў падпісваць пратакол, дзе яго абвінавачвалі ва ўдзеле ў «несанкцыянаваным мерапрыемстве».

«Я ўвогуле апалітычная. Але мяне не задавальняюць платныя пераздачы, я толькі хачу сустрэцца з рэктарам», — казала міліцыі адна з дзяўчын у натоўпе.

«А я мяркую, што мы ўсе павінны вырашаць, як нам лепш вучыцца і жыць, а не павінен гэта рабіць хтосьці іншы, не зважаючы на меркаванні тысяч студэнтаў», — казаў хтосьці яшчэ.

Таму пратаколаў больш не было, калі не ўлічваць паперы на палітычных актывістаў Вінаградава і Вінярскага, якія далучыліся да акцыі.

Калі патрабаванні студэнтаў не задаволяць, тыя абяцаюць паскардзіцца на свой універсітэт у пракуратуру.

**Арцём Гарбацэвіч**

**Рэакцыю заснавальніка tut.by Юрыя Зісера чытайце на старонцы 10.**

## Двух намеснікаў міністраў звольнілі за «несумяшчальныя са службай учынкі»

Пастановай Савета міністраў ад 4 снежня два намеснікі міністраў, а таксама першы намеснік начальніка Беларускай чыгункі вызвалены ад займаных пасадаў, паведамляе прэс-служба ўрада.

Уладзімір Міхайлюк вызвалены ад пасады першага намесніка начальніка Беларускай чыгункі за парушэнне пісьмовага абавязальніцтва па выкананні абмежаванняў, прадугледжаных заканадаўствам аб барацьбе з карупцыяй.



Васіль Півавар (на фота) вызвалены ад пасады намесніка міністра сельскай гаспадаркі і харчавання, дырэктара Дэпартамента ветэрынарнага і харчовага нагляду ў сувязі з учынкам, несумяшчальным са знаходжаннем на дзяржаўнай службе.

Варта адзначыць, што намеснікам міністра Півавар прабыў менш за год. На гэтую пасаду ён быў прызначаны толькі ў сакавіку сёлета. Лёс Півавара быў звязаны са Шклоўскім раёнам, дзе ён працаваў ветэрынарам, а таксама Магілёва — там ён узначальваў завод ветэрынарных прэпаратаў.

Яўген Рагачоў вызвалены ад пасады першага намесніка міністра транспарту і камунікацый з аналагічнай фармулёўкай.

**ЗП**

## Хто з міністраў спрабаваў ашукаць Лукашэнку?

4 снежня Аляксандр Лукашэнка правёў нараду па сітуацыі на ААТ «Камволь». Як вынікае са словаў кіраўніка дзяржавы, за дзень да гэтага ён мусіў наведаць прадпрыемства, але ў апошні момант адмовіўся ад такой ідэі. Чаму?

«Не паехаў, таму што міністр пачаў займацца там ашуканствам. І для таго, каб паказаць на працягу аднаго-двух дзён работу прадпрыемства, сабраў усё, што можна, з міністэрства, з канцэрна, звёз туды сыравіну для таго, каб на дзень-два запусціць машыны, а пасля ад'езду прэзідэнта, напэўна, паспяхова іх спыніць», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Каго ж ён меў на ўвазе?

«Камволь» — гэта адзін з найбуйнейшых вытворцаў тэкстыльнай прадукцыі ў Беларусі. Прадпрыемства знаходзіцца ў падпарадкаванні канцэрна «Беллёгпрам», які наўпрост падпарадкоўваецца Савету міністраў, а не Міністэрству прамысловасці.

Таму, хутчэй за ўсё, гаворка вялася пра кіраўніка «Беллёгпрама» 55-гадовага Мікалая Яфімчыка. Ён родам з Салігорскага раёна. Ад 2003 года ўзначальваў прадпрыемства «Купалінка». Канцэрн «Беллёгпрам» Яфімчык узначальвае ад сакавіка 2014 года.

Тэму «Камволя» Лукашэнка падымае ўжо далёка не першы раз. У 2013 годзе Лукашэнка прыязджаў на прадпрыемства, а сёлета ў ліпені праводзіў яшчэ адну нараду. Аднак, як бачым, справа з мадэрнізацыяй прадпрыемства пакуль не надта рухаецца.

**Зміцер Панкавец**

## Апазіцыя ўпэўнена перамагае на выбарах у Венесуэле

**Блок дэмакратычнага адзінства атрымлівае 99 месцаў у парламенце, а Адзіная сацыялістычная партыя Венесуэлы — 46. Прэзідэнт Мадура прызнаў параз.**



У Венесуэле апазіцыйны Блок дэмакратычнага адзінства перамагае на выбарах у Нацыянальную асамблею (парламент). Пра гэта сведчаць першыя вынікі галасавання, апублікаваныя Нацыянальнай выбарчай радай.

У адпаведнасці з імі, апазіцыя атрымлівае 99 месцаў у парламенце, а Адзіная сацыялістычная партыя Венесуэлы — 46, паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы.

У спісы выбаршчыкаў былі ўнесены каля 19,4 млн грамадзян, яўка склала 74,25%.

Такім чынам, палітычныя апаненты чавістаў (паслядоўнікаў нябожчыка прэзідэнта Уга Чавэса) упершыню за 15 гадоў атрымліваюць большасць у найвышэйшым заканадаўчым органе паўднёваамерыканскай краіны, дзе будуць засядаць 167 дэпутатаў.

За гады праўлення Нікаласа Мадуры (спадкаемцы Чавэса) Венесуэла з-за падзення цэнаў на нафту трапіла ў глыбокі эканамічны крызіс. У краіне назіраюцца перабоі з прадуктамі, рост злачыннасці, інфляцыя дасягнула 80%.

Варта адзначыць, што на выбарах у Венесуэле галасы лічылі нават пры Чавэсе. У краіне захоўваюцца таксама рэальныя мясцовыя выбары, працуюць абраныя губернатары і мэры ад апазіцыі, а ў парламенце заўжды была апазіцыя. Існуюць і незалежныя тэлеканалы.

**Мікола Бугай**

## Першы візіт не ў Расію, а ў В'етнам

Першы афіцыйны візіт на пятым тэрміне знаходжання ва ўладзе Аляксандр Лукашэнка здзейсніў у В'етнам. Праграмай візіту запланаваныя перамовы з прэзідэнтам Чыонг Тан Шангам, сустрэчы з генеральным сакратаром Камуністычнай партыі Нгуен Фу Чонгам і прэм'ер-міністрам Нгуен Тан Зунгам.

У перыяд студзень — верасень сёлета Беларусь нагандлявала з В'етнамам на 107 мільёнаў долараў, гэта прыкладна столькі ж, колькі мы маем у гандлі з Аўстрыяй і Балгарыяй. З В'етнамам Беларусь мае станоўчае гандлёвае сальда ў памеры 57 мільёнаў.

Мы пастаўляем у В'етнам аўтамабілі і трактары, у зваротным кірунку ідуць арэхі, кава, спецыі, садавіна, абутак.

Меркавалася, што 26 лістапада першы афіцыйны візіт Лукашэнка здзейсніць у Расію, але ў апошні момант ён быў адменены.

**ЗП**

# Мікалай Статкевіч: «Змаганне ідзе не з Лукашэнкам, а з Крамлём»

За чатыры месяцы на волі былы палітвязень і кандыдат у прэзідэнты зладзіў 6 акцый, атрымаўшы штрафаў больш чым на $2 тысячы. У інтэрв'ю «Нашай Ніве» ён распавёў, чаму ён лічыць важным выводзіць людзей на вуліцу.

Аніякая барацьба не гарантуе ўдзельнікам бяспеку

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Вы апошнія месяцы ходзіце на пікеты як на работу. А ці ёсць практычны сэнс у гэтых акцыях?**

**Мікалай Статкевіч:** У беларусаў не засталося іншага інструмента ўздзеяння на ўладу і сітуацыю, акрамя публічнай масавай актыўнасці. Выбары ж — гэта ўжо нават не проста тэатр, а тэатр кабукі, дзе кожны рух выверany і прапісаны. За 5 папярэдніх гадоў у цэнтры Мінска не было ніводнай публічнай акцыі дэмсілаў. Гэта былі палітычныя могілкі.

**«НН»: А чаму так было?**

**МС:** Стомленасць людзей, стомленасць кіраўнікоў дэмакратычных арганізацый. Людзі ж найперш пазбягаюць болю, непрыемнага. І калі адказам на акцыі з'яўляюцца рэпрэсіі, то доўга гэта вытрымліваць здольныя нямногія. А гэтыя нямногія былі ў зняволенні. Пасадзілі некалькіх, іншыя здалі гэтую прастору свабоды. Астатнія проста пачалі пазбягаць болю і шукаць сабе зручную форму дзейнасці: у інтэрнэце і цёплых памяшканнях.

Другі момант — стан грамадства. Калі палохаюцца лідары, то грамадства палохаецца ў кубе. А за прастору свабоды ўвесь час трэба змагацца. Я памятаю вулічную вайну за незалежнасць у другой палове 90-х, колькі даводзілася сядзець за магчымасць праводзіць акцыі ў цэнтры горада. Адседзеў 2 гады хіміі, выйшаў — далі нам Бангалор. Цяпер ужо тая плошча Бангалор лічыцца за шчасце.

Таму першая задача — адваяваць гэтую прастору свабоды. Можна ствараць кааліцыі, будаваць планы, але ж як іх рэалізоўваць? Таму я пачаў выводзіць людзей. Выбары — зручны момант праводзіць акцыі з найменшымі стратамі. Затым санкцыі ў дачыненні да Лукашэнкі прыпынілі, што таксама дало «акно магчымасцяў», пакуль дазваляла надвор'е. Цяпер сезон акцый будзе спынены. Вясной будзем глядзець па сітуацыі.

**«НН»: Зімой нічога не будзе?**

**МС:** Можа быць, зладзім штосьці разам з прадпрымальнікамі, але гэта варта рабіць, толькі калі яны самі будуць гатовыя. Ідзя не мая, але добрая — ёсць у Адміністрацыі прэзідэнта аддзел па прыёме грамадзянаў. І хай прадпрымальнікі напішуць звароты ці заявы і ў адзін і той жа час прынясуць іх туды. Калі іх не прымуць там чыноўнікі, то я магу падысці. Але пакуль што я не бачу гатоўнасці з боку саміх прадпрымальнікаў да ўдзелу ў гэтым.

**«НН»: Але ж ці адбываецца тое пашырэнне прасторы свабоды, калі на акцыі выходзіць менш за тысячу чалавек?**

**МС:** Але адбываецца змяншэнне страху. Людзі пачынаюць успамінаць, што права на пратэст — нешта натуральнае. Тым больш здарыцца могуць драматычныя падзеі, тады вырашаць будуць людзі на вуліцы. Каб не аказалася так, што гатовыя да гэтага будуць толькі прыхільнікі «рускага свету».

Акцыя студэнтаў — гэта ў пэўнай ступені і мая заслуга. Калі б не было маіх акцый, не было б і гэтай.

**«НН»: Ці магчымыя мірныя перамены, пра якія ўвесь час казала Таццяна Караткевіч?**

**МС:** Я хачу, каб усе жылі багатыя і здаровыя па 120 гадоў. Але не маю плана, як гэтага дасягнуць. Тое ж тычыцца і мірных пераменаў — такога плана проста не існуе, нават у Караткевіч.

**«НН»: А як Вы ўвогуле да яе ставіцеся?**

**МС:** Яна залежная фігура ад Дзмітрыева, да якога я стаўлюся вельмі негатыўна. Бо бывае так, што чалавека зламалі, як яго. Узгадайце яго выступ па ТБ у 2010 годзе, ён публічна здрадзіў свайму кандыдату і камандзе, да такой гнюснасці не апусціўся нават Раманчук. Але ж калі цябе зламалі, ты зрабіў подласць, то не лезь у людзі, якія прымаюць рашэнні, — цябе зламаюць ізноў.

Так, у нас прынята лічыць сваіх апанентаў агентамі, гэта частка нашай палітычнай культуры. І сапраўдныя спецслужбы гэтым актыўна карыстаюцца. Ёсць такі ўкраінскі жарт, што твой палітычны апанент — гэта яўрэйгомасэксуаліст, які крадзе грошы і працуе на спецслужбы *(смяецца)*. Але ж я лічу, што любы чалавек сумленны, пакуль не даказана адваротнае. У выпадку Дзмітрыева — ён сам даказаў.

**«НН»: А чаму Вы не выйшлі на імправізаванае шэсце пасля выбараў?**

**МС:** Калі кандыдат не кліча людзей, то гэта проста акцыя годнасці. Мы сваю акцыю годнасці правялі 10-га. Дзень выбараў мы ігнаравалі прынцыпова, бо іх проста няма.

**«НН»: То бок, былі б Вы кандыдатам — паклікалі б?**

**МС:** Канечне, гэта маральны абавязак. Інакш які сэнс у кандыдацтве? Ціха ўдзельнічаць у такіх выбарах — толькі шкодзіць дэмакратыі.

**«НН»: Вы казалі, што калі ўлада не зменіць закон перад парламенцкімі выбарамі, то будзеце рыхтаваць Плошчу. Але ж ісці туды навошта?**

**МС:** Калі нацыя не пратэстуе — яна згодная. Калі нацыя не змагаецца — яна паміpae. Неабходна захоўваць самапавагу, маральныя каардынаты ў грамадстве, ідэалы. Трэба выходзіць, паказваць уладзе, самім сабе і ўсяму свету, што хапае людзей, якія не хочуць быць скатамі.

**«НН»: Але ці ўлада і так гэтага не ведае?**

**МС:** Калі нехта называе сябе дэмакратычным лідарам, то не яго справа лічыць шанец, ён павінен рабіць справы. Да таго ж мы не ведаем дакладнай колькасці нязгодных.

**«НН»: Тая ж Караткевіч казала, што не кліча людзей на Плошчу, бо не можа гарантаваць ім бяспеку.**

**МС:** Я лічу такія словы таннай «адмазкай». Аніякая барацьба не гарантуе ўдзельнікам бяспеку. Таму ці ты змагаешся так, як можаш, ці ты імітуеш барацьбу. А апошняе — вельмі выгадна для Лукашэнкі. Гэта значыць, што ён будзе назаўсёды.

Увогуле, сёння ствараецца вельмі зручная для Лукашэнкі апазіцыя. І яна блізкая да поспеху, бо астатнія апазіцыянеры ці зламаныя, ці дапусцілі амаральны ўчынак — нельга садзіцца за стол з людзьмі, якія здрадзілі, нельга мець з імі справы. А яны пусцілі за свой стол спадара Дзмітрыева, які зноў палез у палітыку. Лепш ён ішоў бы займацца абаронай правоў жывёлаў ці, напрыклад, бізнэс нейкі адкрыў. На турэмным слэнгу такіх людзей, якія допускаюць амаральныя ўчынкі, здраджваюць, называюць «нечысць». І лічыцца, што калі ты сеў за стол з «нечысцю», то ты і сам такая ж «нечысць». І я ўсё жыццё, не ведаючы яшчэ гэтага, таксама так лічыў.

**«НН»: А навошта гучала Вашая прапанова аб правядзенні круглага стала паміж дэмсіламі і Лукашэнкам? Вы ўсур'ёз разлічвалі на дыялог? Ці гэта быў проста прыгожы жэст?**

**МС:** Вось вы самі і адказалі на сваё пытанне. Па-першае, заява была прысвечана парламенцкім выбарам. І ў якасці «ўпрыгожвання» Лябедзька прапанаваў уключыць гэтую ініцыятыву. Мы з Някляевым не сталі спрачацца. Дзеля нашага адзінства дапусцілі гэты дэкаратыўны элемент. Для Лябедзькі гэта важна — ну, хай будзе.

Па-другое, размаўляюць толькі з моцнымі. Лукашэнка пагодзіцца гаварыць з намі, калі яго ўжо позна будзе ратаваць. Але каб паказаць свету, што яго лібералізацыя — гэта толькі гульня, мы і прапанавалі той круглы стол.

**«НН»: Вы назвалі апазіцыю «зламанай». Дык чаму ж яе зламалі?**

**МС:** Гэта было непазбежна, беларуская апазіцыя не ў стане перамагчы Крэмль.

**«НН»: Вы лічыце, што змаганне ідзе з Крамлём?**

**МС:** А з кім? Забярыце ў Лукашэнкі расійскія грошы — і што застанецца? Хай даруюць нам украінскія сябры, але наш шанец у тым, што Расіі будзе не да нас.

**«НН»: Дык а як тады Беларусь можа вярнуцца ў сям'ю свабодных еўрапейскіх народаў?**

**МС:** Можа быць шанец, калі ў Расіі скончацца грошы на падтрымку, і актыўная меншасць можа скарыстацца тым, што большасць народу будзе незадаволеная. Тут ёсць небяспека для дзяржаўнасці, таму трэба дзейнічаць толькі тады, калі будзе ўпэўненасць, што Расія занятая сваімі вайнушкамі і ёй не да нас.

**«НН»: Шанец на што? На выбары?**

**МС:** На выбары пры гэтай уладзе надзеі няма.

**«НН»: Тады на што?**

**МС:** Змена ўлады праз масавыя вулічныя акцыі. Гэта адзіны інструмент у паняволеных народаў. Але я б не назваў гэта сілавым варыянтам.

**«НН»: Дык а навошта тады Вашым кандыдатам удзельнічаць у парламенцкіх выбарах, калі на выбары надзеі няма?**

**МС:** Трэба, каб нашыя людзі расказвалі пра альтэрнатыву. Бо адзіная альтэрнатыва — еўрапейская платформа. У Беларусі толькі два шляхі: ці туды, ці сюды — ці Расія, ці Еўропа. Таксама трэба паказаць, што выбараў няма. Плошчу можна ладзіць не ў дзень выбараў, а на наступны дзень, калі ўсе зразумеюць, што ўсё прайшло як заўсёды. Адзінае апраўданне ўдзелу ў выбарах — Плошча. Інакш мы будзем проста выглядаць дурнямі.

**«НН»: А Вы гатовыя да новага тэрміну зняволення? Пры такой рашучасці гэты вынік вельмі імаверны, а Вы немалады ўсё ж чалавек.**

**МС:** Я гатовы рабіць тое, што трэба рабіць. Што будзе, тое і будзе. Я гатовы да ўсяго. Калі я ладзіў галадоўку, я прыняў думку, што магу сысці з гэтага свету. Чым пасля гэтага мяне можна напалохаць?

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Хлопец з Гродна забіты ў баях за «Ісламскую дзяржаву»

Дзяніс Васільеў апошнім часам жыў у Аўстрыі.

Навіну пра смерць 33-гадовага Дзяніса Васільева распаўсюдзілі курдскія СМІ. На ягонай ідэнтыфікацыйнай картцы імя было напісанае ў беларускай транслітарацыі — Dzianis Vasilyeu.

Ураджэнец Беларусі быў забіты ў баі на іракска-сірыйскай мяжы, куды выйшлі курды пры падтрымцы сілаў ЗША пасля вызвалення горада Сінджар.

Як выявілася, Дзяніс нарадзіўся ў Гродне. Калі бацькі развяліся, маці пабралася другім шлюбам і разам з сынам пераехала на Гомельшчыну, у Чачэрск.

«Хлопчык вучыўся добра, асабліва яму падабаліся мова і літаратура. З дзецьмі сябраваў, нармальны хлопчык. Але сям'я нешчаслівая: маці выпівала, пра бацьку нічога не ведаю», — расказала «Камсамольскай праўдзе» ягоная класная кіраўніца.

Закончыўшы школу, Васільеў вярнуўся ў Гродна, дзе жыла яго бабуля. А пасля пераехаў у Еўрасаюз.

Ён нелегальна трапіў у Аўстрыю і папрасіў там прытулку. У 2010 годзе мігрант атрымаў правы на жыхарства і пасяліўся ў Брэгенцы, сталіцы федэральнай зямлі Форарльберг. Гэта горад на захадзе краіны, на самым беразе Бадэнскага возера.

У тым жа 2010 годзе ён скончыў курсы кіроўцаў аўтакранаў і пагрузчыкаў, прычым вучыўся бясплатна, за кошт аўстрыйскай кампаніі.

«Гэтая ініцыятыва заклікана дапамагчы ў пошуках працы тым, хто шукае прытулку, дазволіць ім адчуваць сябе як дома. Амаль ва ўсіх выпадках гэта працуе. Але не ў выпадку Дзяніса Васільева», — піша аўстрыйская прэса.

Сярод дакументаў, знойдзеных пры забітым, — электронныя карткі, візітоўка стаматолага ў Брэгенцы, пасведчанне кіроўцы аўтакрана, сім-картка, а таксама картка стамбульскага гатэля. На ёй ад рукі зроблены надпіс на рускай мове.






Калі Васільеў стаў ісламістам, незразумела. «Камсамольская праўда» сцвярджае, што апошнім часам хлопец вярнуўся ў Беларусь. Суседзі нібыта пазналі Дзяніса па здымку. Ён запомніўся жыхарам спальнага раёна Гродна сваёй барадой і тым, што перыядычна ганяў на матацыкле побач з домам. Малады чалавек жыў не адзін, а разам з дзяўчынай. Дзяцей у іх не было. У кастрычніку 2014 года ён нібыта канчаткова з'ехаў са здымнай кватэры і больш на тэрыторы Беларусі не з'яўляўся.

Курдскія СМІ пішуць, што Васільеў прыехаў у Турцыю з Германіі. Неўзабаве накіраваўся ў Сірыю праз кавалак мяжы, кантраляваны Турцыяй і «Ісламскай дзяржавай». З Сірыі ён адправіўся ў Ірак, дзе ў 2014 годзе далучыўся да баявых дзеянняў.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**




Катарцы дабудавалі ў Мінску шматфункцыянальны комплекс «Сокал», будаўніцтва якога курыраваў Віктар Лукашэнка. Унутры запрацавалі пяцізоркавы гатэль «Мэрыёт» на 217 нумароў, рэстаран, фітнэс-цэнтр, корты для тэніса і сквоша. Апроч таго, у складзе «Сокала» — спартыўная арэна для баскетбола ці гандбола з трыбунамі на 2000 чалавек. Калі ж ладзіць канцэрты, то змесціцца 3500 чалавек.

## У Маскве загінуў беларус Раман Мазурэнка

Заснавальніка сацыяльнай платформы Stampsy на пешаходным пераходзе збіў уседарожнік.

Трагічнае здарэнне адбылося ячшэ 28 лістапада. 32-гадовы Раман Мазурэнка пераходзіў дарогу па пешаходным пераходзе на Сафійскай набярэжнай, калі ў яго на вялікай хуткасці ўрэзаўся ўседарожнік «Рэйндж Ровер». Мяркуючы па кадрах з камер відэаназірання, кіроўца не змяншаў хуткасць перад пешаходам. Ад удару беларуса адкінула на адлегласць каля 100 метраў.

Разам з ім быў сябра, але той своечасова пабачыў ліхача і паспеў адскочыць.

Мазурэнка памёр у бальніцы праз некалькі гадзін, не прыходзячы ў прытомнасць. Як потым высветлілася, за рулём аўтамабіля быў 25-гадовы масквіч Павел Ж., на яго заведзеная крымінальная справа.

У Маскву Мазурэнка пераехаў з Мінска ў 2006 годзе. Ён называў Мінск «сонным гарадком, які спыніўся дзесьці ў 80-х». Мазурэнка быў заснавальнікам платформы для візуальнага кантэнту *Stampsy*. Прыгожы інструмент для стварэння фотагісторый і візуальных эсэ, прэзентаваў сэрвіс сам заснавальнік.

У 2012 *Stampsy* атрымаў грант ад праграмы *Start Fellows*, заснаванай Паўлам Дуравым і Юрыем Мільнерам. У 2015 годзе ён абвесціў пра пераезд кампаніі ў ЗША. Жыў у Нью-Ёрку, але прыязджаў у Маскву да родных і сяброў.

«Я шчыра лічу, што самым страшным праклёнам для чалавека, які цябе моцна пакрыўдзіў, будзе пажадаць яму стаць паспяховым у Маскве. Таму што нічога горшага за гэта быць не можа: поспех азначае, што ты застанешся тут назаўсёды.



Гэты горад, можа быць, падорыць табе машыну і кватэру ў Срэбным Бары, але ты да канца жыцця будзеш стаяць у вечным заторы па шляху з працы дадому. Толькі калі ты больш за ўсё на свеце шануеш свабоду, Масква для цябе будзе проста трамплінам, а не ліпучкай», — пісаў Мазурэнка ў адным з артыкулаў.

7 снежня яму б споўнілася 33 гады.

**Зміцер Панкавец**

# Гродзенскі Хаціка знайшоў новы дом

Сабака месяц чакаў сваіх гаспадароў на месцы разбуранай хаты.

«Мы ўсе выходныя правялі толькі з сабакам. Нават пра дзіця на час забыліся», — смяецца новы гаспадар сабакі Вадзім. Менавіта ён забраў сабе шматпакутнага сабаку, які месяц чакаў на месцы разбуранага дома сваіх уладальнікаў. Тыя кінулі сабаку і з'ехалі назаўсёды.

Цяпер Дружок жыве таксама ў прыватным сектары, але ўжо на іншым канцы горада.

Сабака, якога новыя ўладальнікі назвалі Рэксам, таму што на Дружка той наогул не рэагаваў, прыціскаецца да ног Вадзіма.

«Мне здаецца, што ён жыў у нас увесь час — так хутка асвоіўся і адчуў, што тут яго новае жыллё», — дзеліцца эмоцыямі жонка Вадзіма Святлана.

Рэкса забралі ячшэ ў пятніцу вечарам. Вадзім прачытаў аб гаротным сабаку і адразу ж паехаў на будоўлю ратаваць яго. Спачатку хацеў проста паглядзець і пакарміць. А аказалася, што паехаў па новага члена сям'і. Рэкс не адстае ад свайго новага гаспадара ні на крок, лашчыцца і радасна віляе хвастом.

Сабаку вымылі, вычасалі, накармілі і адвялі яму месца ля цёплай печкі. Рэкс вельмі хутка асвоіўся, і сям'я Вадзіма ўвесь гэты час толькі радавалася, глядзячы на яго. Аднак у панядзелак раніцай адбылося тое, чаго яны баяліся: сабака збег з двара — проста пераскочыў праз агароджу і знік. Маладыя людзі знерваваліся і ўжо абдумвалі, як будуць шукаць ўцекача. Але праз некалькі гадзін сабака вярнуўся ў свой новы дом. Яго заўважылі каля брамкі.

— Відавочна, Рэкс вызначыўся з месцам жыхарства, паколькі вярнуўся дадому. Мы грэшнай справай падумалі, што рване назад на будоўлю. Бо на старым месцы ён жыў столькі гадоў.

Вядома, сабаку ячшэ трэба прыйсці ў сябе пасля перажытага стрэсу, бо яго забралі са звыклага асяродку.

А пакуль Рэкса чакае наведванне ветэрынара. Новыя гаспадары заўважылі, што сабака цяжка дыхае: гэта можа быць следства пераахалоджвання, бо сабака доўгі час сядзеў на бетоннай пліце ў чаканні сваіх гаспадароў.

«Два дні Рэкс проста плакаў — з вачэй цяклі сапраўдныя слёзы, — Святлана абдымае сабаку. — Цяпер ён наш, і мы яго нікому не аддамо».

Дарэчы, у раёне разбураных дамоў па вуліцы Татарскай у Гродне людзі бачаць некалькіх катоў і сабак, якія былі хатнімі і якіх, імаверна, таксама кінулі гаспадары. Рэкса называюць гродзенскім Хаціка — у гонар славутага японскага сабакі, які 9 гадоў пасля смерці гаспадара прыходзіў сустракаць яго на вакзал.

**Віка Майская, Tut.by**



# Муж Люцыі Лушчык дзеліць дзіця са сваёй былой жонкай

Тэлезорка канала АНТ Люцыя Лушчык стала фігуранткай скандалу. Яе муж, бізнэсовец Андрэй Герашчанка, змагаецца з былой жонкай Ілонай за дачку.

Як сцвярджае Ілона Герашчанка, яе абмяжоўваюць у магчымасцях бачыцца з 8-гадовай дачкой. У інтэрнэце з'явілася відэа з не самымі прыгожымі паводзінамі бізнэсоўца і тэлевядучай. На ім яны прымусам не даюць Ілоне сустрэцца з дачкой. Чуваць, як дзіця крычыць і просіць даць ёй абняць маму. Затым у прысутнасці дзяўчынкі Люцыя Лушчык абвінавачвае яе маці ў тым, што яна нічога не ведае пра сваё дзіця, таму што «час праводзіць з палюбоўнікам». Тэлевядучая называе былую жонку свайго мужа «спецыялістам па жанатых мужчынах» і сцвярджае, што тая неадназова пакідала дзіця дома з чужымі. Цікавіцца, ці не патрэбныя ёй грошы, «каб зрабіць новыя грудзі». Але відэа змантаванае так, што прычыны, якія справакавалі размову, застаюцца за кадрам.

У каментары Tut.by Ілона Герашчанка пацвердзіла, што арыгіналы эпізодаў, паказаных на відэа, знаходзяцца ў яе ў асабістым архіве. Жанчына сцвярджае, што здымала відэа для пацвярджэння інфармацыі ў судзе.

Ілона расказала, што развялася з мужам тры гады таму, з'ехала ў Маскву і пасля забрала дзіця. Кожны год былыя муж і жонка падпісвалі пагадненні аб зносінах з дачкой. Амаль палову часу дзяўчынка праводзіла з бацькам у Мінску. Калі дзяўчынка пайшла ў школу, жанчына прапанавала мужу забіраць дачку на вакацыі або прыязджаць да яе на выходныя, але той настойваў на роўных зносінах з дачкой. У выніку дамовіцца бацькі не змаглі і дзяўчынка засталася ў Маскве з маці (гэтыя факты пацвярджаюць дакументы з суда).

У канцы мінулага года па дамоўленасці з маці дзіцяці бацька забраў дачку на зімовыя вакацыі. Тады ж бізнэсовец афіцыйна аформіў адносіны з Люцыяй Лушчык. З тых часоў, сцвярджае Ілона, нармальна яна з дачкой так і не бачылася.

Жанчына звярнулася ў суд, але сёлета ў маі было вынесена рашэнне аб тым, што дачка застаецца жыць з бацькам, бо «ў цяперашні час пражыванне дзіцяці з бацькам найбольш адпавядае інтарэсам непаўналетняй». Пры гэтым і Андрэй, і Ілона падчас судовага разбору прызналі адно аднаго добрымі бацькамі.



45-гадовы Андрэй Герашчанка — бізнэсовец, уласнік спартовага клуба Sporting Club і кампаніі-імпарцёркі бытавой хіміі і касметыкі. У мінулым ён быў спартоўцам, удзельнікам Алімпіяды ў Пекіне па стральбе.



34-гадовая Ілона Герашчанка — заснавальніца першага англамоўнага клуба ранняга дзіцячага развіцця Global Child.



35-гадовая Люся Лушчык — свецкая львіца, тэлевядоўца АНТ.

Зараз Ілона рыхтуе дакументы для перагляду рашэння ў Вярхоўным судзе. Таксама яна стварыла інтэрнэт-петыцыю. «Я веру, што грамадская думка зверне на сябе ўвагу праваахоўных і судовых органаў і верне мне маё дзіця», — гаворыцца ў ёй. Па стане на 8 снежня свае подпісы пад ёй пакінула больш за 4 тысячы чалавек.

Большасць людзей у сацыяльных сетках лічыць вінаватымі ўсіх траіх удзельнікаў канфлікту. І шкадуюць дзіця, якое аказалася між агнёў.

**УШ, МН**

# Цукерберг аддасць 99% свайго багацця на дабрачыннасць

Учынак здзейснены ў гонар нараджэння дачкі.

Заснавальнік і генеральны дырэктар сацыяльнай сеткі *Facebook* Марк Цукерберг і яго жонка Прысцыла Чан абвясцілі аб нараджэнні дачкі Макс, а таксама аб намеры ахвяраваць акцыі кампаніі на дабрачынныя праекты.

Па словах пары, яны маюць намер перадаць 99% акцый *Facebook* на розныя дабрачынныя праекты. Зараз агульны кошт пакета, што належыць Цукербергу і Чан, складае $45 мільярдаў.

Цукерберг і Чан адзначаюць, што маюць намер выдаткаваць гэтыя сродкі на развіццё чалавечага патэнцыялу і садзейнічанне дасягненню роўнасці для ўсіх дзяцей будучых пакаленняў. У першую чаргу сродкі пойдуць на развіццё персаналізаваных сістэм адукацыі, барацьбу з хваробамі і развіццё камунікацый.



Агулам амерыканцы штогод перадаюць на дабрачыннасць каля $350 мільярдаў. Але пераважна грошы ахвяруюць людзі старэйшага веку, 70—80-гадовыя. 31-гадовы Цукерберг можа стаць важным прыкладам для маладых.

**СГ**

Тэндэнцыі

# Дзякуй

Піша Андрусь Горват.



Гадоў дзесяць таму ўладкаваўся я на фірму, якая займалася продажам бытавой тэхнікі. Карацей, у лахатрон. Тое, што ў газетнай аб'яве называла сябе гандлёвым прадстаўніком, папраўдзе, хадзіла па кватэрах і пад выглядам уяўных рэкламных акцый збывала дробную бытавую тэхніку і кухонныя прылады: прасы, электрачайнікі, нажы. Што гэта лахатрон, я дацяміў запозна, калі ўжо прызвычаіўся да лёгкіх грошай. За месяц мяне натрэніравалі так, што я мог прадаць што хочаш і каму хочаш. Маімі калегамі былі студэнты-завочнікі, маладыя настаўнікі і медыкі — наймілейшыя прайдзісветы — добрыя і прастадушныя. Мы падымаліся на апошні паверх і надзявалі на сябе нябачны скафандр, які не ўпускаў ні страх, ні сумленне.

– Добры дзень. Вы гаспадыня?

Недаверлівыя позіркі за дваццаць хвілінаў напаўняліся цеплынёй. А нашыя кішэні — грашыма.

Там, у кватэрах, маё сэрца ніколі не ёкала. Бабця з царкоўнага хору, палкоўнік, інвалід у вазку, сямейная пара лесбіянак, цётка, яшчэ адна цётка, яшчэ сто цётак — я ўсіх не злічу. Сэрца ёкала, калі мы збіраліся ля машыны, запіхвалі ў багажнік рэшткі і моўчкі вярталіся ў кантору. То была не проста стома, а душэўнае знясіленне праз гвалт, які мы самі й учынялі. Так цягнулася некалькі месяцаў, пакуль у нашым офісе не пачаліся ператрусы, падчас якіх мы хаваліся ў кабінеце дырэктара. Кіраўніцтва стала збіраць свае манаткі, каб збегчы ў Самару — адкуль і звалілася нам на галовы. Было прапанавана далучыцца да ўсеагульнай міграцыі. І мы далучыліся.

– Самара — гэта маленькі Лас-Вегас, — сказалі нам.

І мы паверылі.

Мы лічылі вялікую Расію сваім выйгрышам і шанцам. Думалі калі-небудзь вярнуцца ў Мінск мільянерамі, нібы ў родную вёску з хаткамі пад дзіравымі стрэхамі. Выявілася, што Самары не толькі да Лас-Вегаса было далёка, ёй было далёка да Шабаноў. Хочаш перасячы дарогу — спадзявайся толькі на свайго анёла. Расія запусціла ў космас ракету з Гагарыным, а самарцы па вечарох запускалі з вокнаў пакеты са смеццем.

Ужо першы працоўны дзень выявіў, што ўсе нашыя ўменні, набытыя ў Мінску, можна лёгка перакрэсліць. Лахатрон на расійскі манер аказаўся зусім іншы. У Мінску прадаўцу дапамагае інтэлігентнасць. У Самары яна была перашкодай. Каб збыць тавар, трэба было стаць галодным ашалелым зверам. У бабулі, якая адчыняе дзверы, у вачох няма недаверлівасці і каровінай прастадушнасці, а страх. І гэты страх можна перамагчы толькі сілай. Нас навучылі простаму прыёму — найперш падсоўваць нагу ў дзвярны праём, а ўжо потым усміхацца: «Здраствуйце! Вам сёння пашчасціла». Калі гаспадар слабейшы за цябе, калі ён не здолее выпіхнуць тваю нагу, то ты адсунеш яго і патрапіш унутр.

Клапаціцца пра тое, што нехта выкліча міліцыю, не было ніякай патрэбы. Міліцыя рэгулярна атрымоўвала ад нашай фірмы свой працэнт з продажу. Таму нахабства дазвалялася. Адзінае, чаго трэба было баяцца, — дужых гаспадароў. Таму мы хадзілі ўдвох і ўтрох.

У мінскіх кватэрах дыялог з «кліентам» быў даўгі — каля дваццаці хвілінаў. «А хто ў вашай сям'і вострыць нажы?..» Заваяваць давер у беларуса лёгка — трэба толькі пацікавіцца яго ным жыццём, пачуццямі. І праз дваццаць хвілінаў беларус накорміць абедам, аддасць свае грошы, яшчэ і падзякуе наўздагон. Завяваць давер самарскага расіяніна — немагчыма. Таму дыялогу ў нас не было, быў скваспны, спешны, агрэсіўны маналог на тры-пяць хвілінаў, які завяршаўся словамі: «Як гэта няма грошай!? А калі я пашукаю?» Так дзейнічалі нашы самарскія калегі. А мы так і не навучыліся. Хадзілі са сваімі торбамі, сарамліва ўсміхаліся, безнадзейна ўсміхаліся. Усміхаліся, усміхаліся, усміхаліся. Па-беларуску. Нас выганялі, выкідалі з пад'езду, як пакеты са смеццем, білі нагамі.

Але аднойчы на маю сарамлівую шчырую ўсмешку адказалі сарамлівай шчырай усмешкай. Мы былі ўтрох: я, мой найлепшы сябар Лёха і Вася. Быў ужо амаль вечар, стома расцякалася па ўсім целе. Мы хацелі есці. Мы хацелі грошай. Мы хацелі набыць квіткі да Мінска — родная вёскі з хаткамі пад дзіравымі стрэхамі.

Дзверы адчыніла жанчына. Я сказаў ёй: «Здраствуйце», — і ўсміхнуўся. Яна сказала мне: «Здраствуйце», — і ўсміхнулася.

Я ўклаў усю сваю пяшчоту ў няспешныя словы па амаль забытай мінскай сістэме.

Я не помню, ці прадалі мы што-небудзь. Гэта цяпер неістотна.

Калі я закончыў, гаспадыня прамовіла: «Дзякуй». Па-беларуску.

# Мозг дзяцей памятае забытую родную мову

**Мова «прашываецца» ў мозг як родная ў першыя паўтара-два гады жыцця.**

Як паказала даследаванне псіхолагаў і нейрафізіёлагаў канадскага Універсітэта Макгіла, апублікаванае ў часопісе *Nature*, людзі ўспрымаюць як родную тую мову, што чулі ў першыя гады жыцця, нават калі ў свядомым узросце сталі размаўляць на іншай мове.

Пад назіраннем праз магнітна-рэзанансную тамаграфію паддоследныя праходзілі тэсты на хуткасць і эфектыўнасць апрацоўкі інфармацыі, што перадавалася па-французску. Сярод паддоследных былі 10 дзяцей, якія нарадзіліся ў Францыі і размаўлялі толькі па-французску, 21 дзіцё, народжанае ў Кітаі і ўсыноўленае французскімі сем'ямі ва ўзросце да 2 гадоў, 12 дзяцей-кітайцаў, якія вывучалі французскую як замежную і вольна размаўлялі на ёй. Набор зонаў мозгу, што актываваліся падчас апрацоўкі інфармацыі, пачутай на французскай мове, адрозніваўся ў розных групаў. Дзеці, што вывучалі французскую як замежную, мелі актыўнасць у больш шырокім наборы зонаў у параўнанні з тымі, у каго французская мова матчына: уключаліся зоны, адказныя за рабочую памяць, увагу і спазнаванне.

Тыя ж, хто чуў у раннім узросце кітайскую, але ведаў толькі французскую, апрацоўвалі інфармацыю па-французску так жа, як тыя, хто вывучаў французскую як замежную. І на кітайскую рэагавалі так жа, як тыя, каму кітайская была роднай, хоць самі кітайскай не ведалі.

Даследаванне паказала: яшчэ да таго, як чалавек асэнсоўвае панятак «родная мова», да ўзросту 1,5—2 гады ён натуральным шляхам вучыць мову, якую чуе, а пазней вывучаныя мовы ўспрымае як народныя, нават калі не валодае роднай.

**Радыё «Свабода»**




## Забарона абортаў уратавала жыццё Крышціяну Раналду

Сям'я будучай зоркі футбола жыла бедна, бацька піў, таму маці Крышціяну Раналду думала пра аборт, але, на шчасце, яны былі тады забароненыя ў Партугаліі, распавядае біяграфічны фільм.

«Ён быў нежаданым дзіцём», — распавядае Далорэс, маці футбаліста, якая тады перажывала псіхалагічныя праблемы і піла транквілізатары.

У такім стане яна хацела зрабіць аборт, але яны былі забароненыя ў каталіцкай краіне, таму Далорэс без поспеху намагалася выклікаць выкідак.

Строгія законы і добрае здароўе не дазволілі жанчыне забіць сваё дзіця. Раналду нарадзіўся ў лютым 1985 года.

Сёння законы ў Партугаліі значна аддаліліся ад прынцыпаў касцёла. Забіць ненароджанае дзіця можна без прычыны, калі цяжарнасць не большая за 10 тыдняў. У Беларусі можна зрабіць аборт без паказанняў да 12-га тыдня цяжарнасці.



**Алесь Гелагаеў**

## Прэзідэнт Эстоніі заручыўся з кіраўніком кібербяспекі Латвіі



Прэзідэнт Эстоніі Тоомас Хендрык Ільвес заручыўся з кіраўніком службы кібербяспекі МУС Латвіі Еваі Купцэ.

Як кажуць у прэзідэнцкім палацы, рашэнне аб заручынах было прынята яшчэ ў сярэдзіне лістапада і ніяк не адаб'ецца на выкананні прэзідэнтам сваіх абавязкаў.

На дадзены момант невядома, ці застанецца Ева Купцэ пры выкананні сваіх абавязкаў да вяселля і ці будзе яна выступаць у традыцыйнай ролі «першай лэдзі» пасля шлюбу.

За плячыма ў 61-гадовага Ільвеса два шлюбы, у яго трое дзяцей. Яго другі прэзідэнцкі тэрмін скончыцца ў жніўні наступнага года.

Прэзідэнт Эстоніі і 38-гадовая Купцэ пазнаёміліся ў Еўрапарламенце ў пачатку 2000-х.

**ЛМ**




## Польскія спартсмены зняліся аголенымі для дабрачыннасці

Былая польская біятланістка, а цяпер фатограф Дамініка Цуда вырашыла сабраць сродкі на дабрачыннасць з дапамогай аголенага календара. У гэтым ёй дапамаглі вядомыя спартсмены, якія пагадзіліся сфатаграфавацца без адзення.

Сярод польскіх знакамітасцяў такія зоркі, як вяслярка Ганна Вежбоўска, спрынтар на 400 метраў Эдзіта Літвінюк, ёгі Марта Віцецкая і Юры Кусмаул (на фота), танцорка Катажына Бігас і фітнэс-трэнер Катажына Дзюрска.

**Сямён Цыбульскі**

**Кіно**

## На прынцыпах Канстытуцыі

Шпіёнскі мост
**Жанр:** трылер, драма, біяграфія
**Рэжысёр:** Стывен Спілберг
**У ролях:** Том Хэнкс, Марк Райлэнс, Эмі Раян, Алан Алда, Осцін Стоўэл, Скот Шэперд
ЗША, 150 хв.
**Адзнака:** 8

Гісторыя пачынаецца ў 1957 годзе з арышту савецкага шпіёна Рудольфа Абеля, сапраўднае імя якога — Уільям Фішэр. Імем свайго сябра ён назваўся, каб пасляць сігнал у Маскву. Пасля арышту ён адмовіўся супрацоўнічаць са спецслужбамі, органамі следства і судом ЗША. На працягу ўсяго працэсу ён трымаў маўчанне, размаўляючы толькі са сваім абаронцам, бруклінскім адвакатам Джэймсам Донаванам. Той самаадданa бярэцца абараняць савецкага выведніка Абеля-Фішэра, кіруючыся выключна прынцыпамі Канстытуцыі. Праз некалькі гадоў Донаван вядзе перамовы і паміж дзвюма звышдзяржавамі, вынікам якіх становіцца гістарычны абмен выведнікамі на Глінікскім мосце ў Берліне.

Новая стужка Стывена Спілберга заснаваная на рэальных гістарычных падзеях. Ідэя фільма ўзнікла ў Спілберга яшчэ ў 1960-х, але кампанія MGM не адважылася здымаць такі фільм у разгар халоднай вайны. У працы над сцэнаром новага фільма ўзялі ўдзел браты Коэны.

Здымкі пачаліся ў верасні 2014 года і доўжыліся 12 тыдняў. Яны праходзілі ў Нью-Ёрку, Германіі і Польшчы — у тых самых месцах, дзе і адбываліся пакладзеныя ў аснову фільма падзеі. Абмен амерыканскага лётчыка Паўэрса на Абеля здымалі ў Берліне на тым самым мосце (быў празваны «шпіёнскім», бо на ім неаднаразова адбываўся абмен шпіёнамі), дзе ён і адбыўся шмат гадоў таму. А сам Берлін 1961-га здымалі ў польскім Уроцлаве.

«Гэта гісторыя не пра цені і святло, не класічная стэрэатыпная шпіёнская сага. Мы хацелі паказаць шпіёнаў людзьмі, на якіх на вуліцы другі раз не паглядзіш. Якіх проста не заўважаеш, не кажучы ўжо пра думкі, што яны тут з місіяй, якая падрывае асновы дзяржаўнай бяспекі», — расказаў Стывен Спілберг.

У галоўнай ролі зняўся Том Хэнкс. Яго герой Джэймс Донаван — страхавы адвакат, які бярэцца абараняць меркаванага шпіёна Абеля, што відавочна выходзіць за рамкі яго звычайнай практыкі. У фільме пра гэта не сказана ні слова, аднак насамрэч Донаван калісьці працаваў ва Упраўленні стратэгічных службаў, якое стала папярэднікам Цэнтральнага выведвальнага ўпраўлення ЗША. Донаван быў добра вядомы ў выведвальнай сферы і меў там шырокія сувязі. Яго прамова ў фільме на пасяджэнні Вярхоўнага суда дакладна паўтарала словы, насамрэч сказаныя ў абарону Абеля ў Вярхоўным судзе ЗША шмат гадоў таму.




Стужка мае размераны тэмп і нарастаючую эмацыйнасць. Спадабаецца аматарам узноўленых гістарычных падзей і вытанчанай рэжысуры.

**Настасся Уласава**

# Зісер пра марш студэнтаў: «Мне агідная барацьба двоечнікаў за права беспакарана быць двоечнікамі»

«Я, як чалавек, які заўсёды вучыўся на выдатна і добра і пражыў жыццё без пераздач, нават у ДАІ, ніяк не магу зразумець марш двоечнікаў БДУ. Мне агідная барацьба двоечнікаў за права беспакарана быць двоечнікамі», — напісаў у фэйсбуку ўласнік партала Tut.by **Юрый Зісер**.

З ім не пагадзіўся старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**: «Ну што ж, і гэтая пазіцыя мае права на існаванне. Але дазвольце, Юрый, з вамі не пагадзіцца ў ацэнках падзей 2 снежня. Я інстытут таксама скончыў з чырвоным, без чацвёрак. З другога курса нават імянную 100-рублёвую стыпендыю атрымліваў. «Заможны» студэнт. І ў другім дыпломе ў мяне канстытуцыйная большасць пяцёрак. І правы атрымаў без блату, бо пасля школы не меў паняцця, што гэта такое.

Але ... але ўсё ж але. Не думаю, што вугал, пад якім вы пагалядзелі на студэнцкі Марш любові і салідарнасці, самы ўдалы. Што ён дазваляе бачыць усё. Можна і з іншага пункту глянуць. І тады становіцца зразумелым, што справа не ў адзнаках, дакладней не толькі ў іх. А ў самім клімаце, калі хочацца ў паветры, якім даводзіцца дыхаць кожны дзень студэнтам, выкладчыцкай супольнасці. Ва ўзаемаадносінах адміністрацыі і студэнтаў».

Некаторыя каментатары Юрыя Зісера падтрымалі. «Часам мне даводзілася прымаць па 5 пераздач у аднаго студэнта. І ўзровень яго ведаў ад пераздачы да пераздачы не мяняўся. Я выдаткоўвала каштоўны час на чыюсьці ляноту і дурасць», — напісала **Ірына Бацэнка**.

«Вось калі б маршыравалі за падвышэнне ўзроўню выкладання — я б зразумеў», — дадаў Юрый Зісер.

Але ўсё ж большасць каментатараў з Зісерам не пагадзілася.

Вось што напісаў **Аляксандр Гусак**: «1. Кожны чалавек індывідуальны, і прычыны, чаму студэнт не здаў экзамен, могуць быць рознымі. Не варта ўсіх раўняць пад сябе. Хтосьці можа здаваць лёгка экзамены, а хтосьці — не.

2. Калі я вучыўся ў БДУ на ФПМ, у нас было шмат выдатных выкладчыкаў, але таксама і самадураў, якія не ўмелі вучыць, не ўмелі падаваць матэрыял, затое добра ўмелі адарвацца на тых, хто ім не падабаўся з нейкіх сваіх суб'ектыўных прычын. Сама сістэма здачы экзаменаў суб'ектыўная і няправільная. Трэба мяняць сістэму кантролю і ацэнкі ведаў.

3. Навошта блытаць два розныя пытанні: заробак выкладчыка і правы студэнта. Заробак выкладчыка павінен быць годным. Але студэнт павінен мець права пераздаць іспыт, нават калі ён проста хоча палепшыць свой вынік.

4. Калі зарплата выкладчыкаў будзе годнай, то і канкурэнцыя сярод выкладчыкаў будзе, і адпаведна будзе лепшай якасць адукацыі».

«Людзі робяць выгляд, нібыта жывуць у нармальнай дзяржаве з нармальнымі ўніверсітэтамі,з механізмамі абскарджвання, акадэмічнай свабодай. Нібыта і не бачаць, як ламаюць студэнтам лёсы па прыхамаці розных шышак», — зазначыла пісьменніца **Святлана Курс**.

Журналіст **Віталь Цыганкоў** выказаўся так: «Вельмі няўдалы пост. Упершыню за дзесяцігоддзе адбылася студэнцкая акцыя пратэсту, гэта гістарычная падзея. Не ўлічана, што пераздачы — толькі нагода, а на самай справе студэнты змагаюцца за свае права на самакіраванне, за тое, каб іх выслухалі, за тое, каб з імі раіліся. Гэта тое, што прадугледжана Балонскім працэсам, куды Беларусь афіцыйна ўвайшла ў траўні гэтага года. Дзеля таго, каб у Беларусі было больш акадэмічных (для пачатку) свабодаў, студэнтаў варта было б усяляк падтрымаць. А тут...»

А вось што напісаў выпускнік філфака **Андрэй Кузнечык**: «Дарэчы, наконт праведнага гневу Юрыя Зісера і іншых наконт платных пераздач. Не ведаю, як там на факультэтах дакладных навук, але ў мае часы на філфаку ці не ў кожным семестры былі выкладчыкі, якім нешта здаць з 1-га разу было латарэяй, не горшай за грын-кард. Студэнты падключалі ўсю сваю інтуіцыю, каб разгадаць хітраспляценні, з якімі лепш было б разбірацца персанальным псіхолагам, і ясны перац, што атрымлівалася не ўва ўсіх. Дзівачлівыя выкладчыкі, дзе на 1-м месцы — упадабанні, на 2-м — светапогляднае сугучча, на 3-м, нарэшце, веды па прадмеце, заваліць па якім пры жаданні можна любога, бо хто ж прачытае за 3 месяцы пару стагоддзяў літаратурнага набытку. І цымус у тым, што памылкай ці агаворкай можна было закрануць самыя тонкія струны выкладчыцкай душы, што гарантавала неаднаразовы паход на пераздачы. Калі б я даведаўся, што за гэткія выбрыкі цяперака й грошы будуць браць, я б таксама ўзбунтаваўся.

Добра, уводзьце плату за пераздачу, але тады хай прымае іспыт не 1 выкладчык, а кафедра і з запісам на камеру».

А найбольш упадабанняў сабраў вось гэты запіс **Аляксандра Луцэвіча**: «Агідна, калі са студэнтамі не лічацца ці пасля падачы 2500 подпісаў (а іх было б і больш, проста спяшаліся) адразу прымаецца загад.

Агідна, калі за меркаванне студэнтаў выдаюць меркаванне афіцыйных органаў самакіравання, людзей у якія ніхто не выбіраў, якія ніхто і піскнуць не могуць.

Агідна, калі ў дэканатах пагражаюць адлічэннем студэнтам за сваю пазіцыю.

І нават калі адносна ўвядзення платных пераздач ёсць цэлы спектр аргументаў, кожны з якіх змяшчае рацыянальнае зерне, патрэбны быў адкрыты абмен меркаваннямі і выпрацоўка, магчыма, іншага падыходу да павышэння якасці адукацыі (бо, па вялікім рахунку, мне здаецца, што менавіта гэта і прыкрываюцца!). Але вось так сябе паводзіць універсітэту, які прэтэндуе на рэалізацыю каштоўнасцяў Балонскага працэсу, — гэта дакладна агідна».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Сяргей Гезгала**



## Украінскай арміі больш не трэба дапамога беларусаў, не адрывайцеся ад радзімы

Паўтара года таму Цэнтральная Еўропа апынулася перад страшнай пагрозай. Расія была гатовая заняць увесь поўдзень Украіны, да Адэсы, каб стварыць там «Наваросію», Новую Расію. Гэта цалкам разбурыла б еўрапейскі парадак, што ўстанавіўся пасля 1990 года. Рэалізацыя такога плана не толькі стварыла б смяротную пагрозу незалежнасці Беларусі, але і магла прывесці да спаўзання свету ў невараць Трэцяй сусветнай вайны.

У той сітуацыі свядомыя беларусы лічылі за свой абавязак дапамагчы братам-украінцам усімі магчымымі спосабамі.

Пасля зрыву планаў расійскіх штурмавікоў у Харкаве і Адэсе ў красавіку-маі, усенароднага абрання новага прэзідэнта Украіны, штурму аэрапорта Данецка ў маі і вызвалення Славянска ў ліпені стала ясна, што Наваросію «знутры» стварыць не ўдасца. Аднак Расія працягвала забяспечваць працівапаветранае прыкрыццё «апалчэнцаў» у Данбасе і ўзбройваць іх. Заставаўся яшчэ апакаліптычны варыянт поўнамаштабнай інтэрвенцыі Расіі.

Непадрыхтаванай была тады ўкраінская армія, але, якая б яна ні была, яна абараняла тады не толькі Усходнюю Еўропу, але ўсю Еўропу. Вось у той сітуацыі некаторыя беларусы адпраўляліся ваяваць ва Украіну.

«Ва Украіне мы абараняем Беларусь. Калі Расія пераможа ва Украіне — наступнай будзе Беларусь!» — казалі яны.

Афіцыйная Беларусь тады заняла падкрэслена нейтральную пазіцыю, але, варта нагадаць, ніколі не спыняла пастаўкі жыццёва неабходнай Украіне саляркі.

Праз паўтара года сітуацыя змянілася. Украінская армія з гора з бяды стала больш баяздольнай. Усходні Данбас застаецца акупаваным, але Масква была вымушаная падпісаць кампрамісныя Мінскія пагадненні, дасягнутыя пры спрыянні Аляксандра Лукашэнкі.

Крым застаецца расійскім, але ва ўмовах энергетычнай блакады і нафты па 45 усё гэта ўжо глядзіцца зусім не так, як паўтара года таму.

Гаворкі пра інтэрвенцыю ва Украіну афіцыйныя расійскія СМІ спынілі.

Больш за тое ,Расія ўсё больш загрузае ў канфлікце на Блізкім Усходзе. Становіцца рэальнай наземная аперацыя Расіі ў Сірыі. Паўнавартасна ваяваць на некалькі франтоў Расія не зможа. І хоць мінулы зімовы перыяд быў часам актывізацыі дзейнняў расіянаў на ўсходзе Украіны (зямля стала цвёрдай, і таму было лягчэй ажыццяўляць наступ на Дэбальцава), у гэтым годзе такой актыўнай зімы на Данбасе, імаверна, не будзе.

Паўстае пытанне: які сэнс далейшага ўдзелу беларусаў ва ўкраінска-расійскай вайне?

Ваеннага сэнсу ў тым больш няма.

Інфармацыйны сэнс? За паўтара года вайны тэзіс «беларусы салідарныя з Украінай» быў паспяхова данесены да ўкраінцаў.

Набыццё вопыту? Патрыёты Беларусі найменш хочуць, каб такі вопыт беларусам калісьці спатрэбіўся. Не дай Бог!

Пры гэтым трэба памятаць, што частка беларусаў, якія ўзялі ўдзел у вайне на баку Украіны, так і не змогуць у бліжэйшы час вярнуцца на Радзіму. Між тым беларускія патрыёты найбольш патрэбныя Беларусі, а не Украіне.

**Мікола Бугай**

# Расейскі вайсковец прыехаў у Оршу, каб забіць жаніха былой каханай

Таксіст нават не здагадваўся пра існаванне замежнага суперніка.

Жорсткае забойства адбылося на трасе Орша—Дуброўна яшчэ 1 сакавіка 2014 года. Дарожныя рабочыя знайшлі ў кювеце цела аршанскага таксіста з мноствам нажавых раненняў. Забойцу хутка злавілі. Некалькі месяцаў таму суд прысудзіў яму 18 гадоў зняволення — параўнальна мяккае пакаранне, часцяком за такое забойства расстрэльваюць ці саджаюць пажыццёва.

У праграме «Таямніца следства» на тэлеканале «Беларусь-1» былі расказаныя падрабязнасці гэтай гучнай справы.

У першым шлюбе жыхарка Оршы Ганна нарадзіла дачку, аднак праз схільнасць мужа да алкаголю разышлася з ім. Калі той падняў на жонку руку, сышла з дзіцём да сваіх бацькоў.

Расійскага вайскоўца, выкладчыка ваеннай кафедры Аляксандра Скараходава Ганна знайшла ў інтэрнэце ў 2012 годзе. Спачатку перапісваліся на сайце знаёмстваў, пасля ў сацыяльных сетках.

Расійскі капітан расказаў, што жанаты і мае дачку, але нібыта збіраецца развесціся. Беларуска паверыла.

Пара то сыходзілася, то разыходзілася на паўгода. Але адносіны ўсё адно развіваліся на адлегласці. Тым больш Аляксандр пераехаў са Смаленска ў Зеленаград — у прыгарад Масквы. Вайсковец так і не рашыўся развесціся з жонкай, і Ганна ў рэшце рэшт знайшла новага кавалера.

Ім стаў аршанскі таксіст. Значна старэйшы за яе, таксама з дзіцём, затое не ў шлюбе.

Пра новыя адносіны Ганна паведаміла вайскоўцу, аднак той не хацеў адпускаць жанчыну. Прыехаўшы ў Оршу, ён зладзіў рамантычнае спатканне, але Ганна адмовілася вяртацца да ранейшых адносінаў. На той момант разам з таксістам яна ўжо занесла заяву ў ЗАГС.

Аляксандр збіраўся ўсё ж зрабіць ёй прапанову (пры гэтым застаючыся ў шлюбе), але не змог дазваніцца. Ганна адказвала праз смс і прасіла забыць яе.

Тады ў галаве расійскага вайскоўца з'явіўся вар'яцкі план — знішчыць суперніка, каб вярнуць жанчыну.

Спачатку Аляксандр з'ездзіў у Оршу на разведку. Паколькі не ведаў таксіста ў твар, вырашыў дачакацца яго каля дзіцячага садка, куды хадзіла дачка Ганны. План спрацаваў. Таксіст прывёз дзяўчынку, і такім чынам Аляксандр даведаўся, на якім аўто ездзіць супернік.

Для сваёй наступнай паездкі ў Беларусь вайсковец арандаваў аўтамабіль, але не ўлічыў, што машына абсталяваная сістэмай спадарожнікавага сачэння.

Знайшоўшы на вуліцах Оршы патрэбнага яму таксіста, які на стаянцы чакаў кліента, расеец прыпаркаваўся непадалёку, пераапрануўся і падсеў да суперніка.

Ён замовіў паездку ў суседняе Дуброўна — 20 км па маскоўскай трасе. Кіроўца пагадзіўся ехаць і паведаміў дыспетчару свой маршрут. Калі даехалі да Дуброўна, пасажыр загадаў развярнуцца і ехаць назад у Оршу. На адваротным шляху Аляксандр дастаў нож і накінуўся на таксіста. Той выскачыў з машыны і спрабаваў уцячы, але марна. Агулам на яго целе налічылі 24 нажавыя раненні. Адцягнуўшы мёртвага таксіста да дрэнажнай трубы, расійскі вайсковец сеў у яго аўтамабіль, прыехаў у Оршу і пакінуў машыну на стаянцы. А сам на сваім арандаваным аўто вярнуўся ў Расію.

Першай версіяй следчых стала забойства з мэтай рабавання, аднак яе даволі адкінуць. У таксіста была вялікая сума грошай, каштоўнасці і мабільнік, але злачынца не ўзяў іх.

Апытаўшы сваякоў і сяброў забітага, следчыя зацікавіліся асобай былога кавалера Ганны. Каб не чакаць дазволу на яго затрыманне на тэрыторыі Расіі, вайскоўца вырашылі завабіць у Беларусь. Для чаго скарысталіся дапамогай Ганны, якая папрасіла Аляксандра прыехаць і падтрымаць яе. Той спачатку аднекваўся, але на 8 Сакавіка вырашыў зрабіць сюрпрыз. Зрэшты, у Оршы яго адразу ж затрымалі.

У якасці доказаў следчыя перадалі ў суд маршруты руху Аляксандра, які аб'язджаў у Оршы ўсе стаянкі таксі. Апроч таго, ён у выніку прыпаркаваўся менавіта там і менавіта тады, дзе і калі атрымаў апошні заказ забіты. Гэтыя дадзеныя былі зафіксаваныя на арандаваным аўто.

У судзе расійскі вайсковец цалкам адмаўляў сваю віну. Якія довады на сваю карысць ён прыводзіў, Следчы камітэт не паведамляе.

**Баніслаў Юрэвіч**

## 14-гадовая мама толькі праз два гады расказала, хто бацька дзіцяці

Гора-каханак так і не прызнаў віну.

Набыў законную моц прысуд у дачыненні да непрацуючага жыхара Баранавіцкага раёна за інтымную сувязь з дзяўчынкай-падлеткам.

Як паведаміў старшы пракурор аддзела пракуратуры Брэсцкай вобласці Генадзь Буры, у верасні 2012 года 32-гадовы мужчына сустрэў на дыскатэцы ў суседняй вёсцы 14-гадовую аднавяскоўку і прапанаваў ёй пакатацца на аўтамабілі. На ўскраіне вёскі ён спыніў машыну і ўступіў з дзяўчынкай у інтымныя адносіны. Са слоў асуджанага і пацярпелай, гэта адбылося па ўзаемнай згодзе.

У канцы мая 2013 года непаўналетняя вяскоўка нарадзіла дачку і нікому не гаварыла, хто бацька дзіцяці.

Крымінальная справа ў дачыненні да мужчыны была распачатая пасля таго, як у ліпені 2015 года пацярпелая расказала аб усім сваёй маці.

Баранавіцкі суд прысудзіў мужчыну да двух гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. На судзе абвінавачаны не прызнаў сваёй віны і заявіў, што не ведаў, колькі гадоў аднавяскоўцы.

Раней мужчына быў шэсць разоў судзімы, у тым ліку за наркотыкі, махлярства, угон аўтамабіля і крадзеж.

**БелаПАН**

## Хлопец і дзяўчына раздзеліся на вачах у пакупнікоў



Міліцыя шукае маладых людзей, якія па чарзе раздзеліся ў прысутнасці наведвальнікаў і работнікаў сталічнага гандлёвага цэнтра.

Інцыдэнт адбыўся днём. У краму зайшлі хлопец і дзяўчына, якім на выгляд было па 25 гадоў. У гандлёвай зале дзяўчына пачала здымаць з сябе вопратку. Застаўшыся ў адных трусах, падышла да касы і пачала апранацца.

Спадарожнік маладой асобы ўвесь гэты час трымаў у руках яе рэчы. Праз некалькі хвілін маладыя людзі падняліся на паверх вышэй.

Там хлопец надзеў жаночы халат і зняў сваю вопратку. Затым распахнуў халат і прадэманстраваў работніцы гандлёвага аб'екта сваю галізну.

Камеры відэаназірання, усталяваныя ў гандлёвым цэнтры, зафіксавалі шопінг на распрананне. Калі вам штонебудзь вядома пра маладых людзей, просьба звяртацца ў Цэнтральнае РУУС асабіста альбо па тэлефонах: 8 (029) 263-74-29 (аперупаўнаважаны Аляксандр Віктаравіч), 288-81-13, 288-02-02 (дзяжурная частка) або 102.

## У Расіі васьмёра падлеткаў згарэлі ў лазні

Моладзь святкавала дзень нараджэння.



Сігнал аб пажары ў адным з дачных пасёлкаў у Ханты-Мансійскай аўтаномнай акрузе Расіі паступіў у ноч на 6 снежня. Калі ратавальнікі прыехалі на месца здарэння, драўляны будынак ужо быў цалкам ахоплены агнём. Праз некаторы час адбылося абвальванне. Падчас разбору завалаў пажарныя выявілі абгарэлыя фрагменты целаў.

Як высветлілася, у горадзе Лянтор вялікая кампанія моладзі — больш за 15 чалавек, усе з паспяховых сем'яў — адзначала дзень нараджэння сяброўкі. Бацькі 15-гадовай Лізаветы накрылі ім стол, на якім, сярод іншага, была скрыня віна. Калі святкаванне скончылася, некаторыя разышліся па хатах, а васьмёра чалавек вырашылі адпачыць у лазні.

На лецішча васьмёра маладзёнаў узростам 13—15 гадоў, сярод іх імянінніца, прыехалі на двух таксі. Яшчэ некалькі іх сяброў ішлі ў дачны пасёлак пешшу. На падыходзе яны ўбачылі пажар, і разбегліся па хатах, не сказаўшы нічога дарослым.

Прычынай пажару мог стаць кавалак вугалю з печкі-буржуйкі, якая знаходзілася каля выхаду з лазні. Неўзабаве агонь перакінуўся на сцены. Падлеткі кінуліся назад у парылку, дзе атруціліся ўгарным газам і згарэлі зажыва.

**БЮ**

## Сціслa

### У п'янай бойцы адрэзалі палавы орган

37-гадовы жыхар Мінска распіваў дома алкаголь са сваімі знаёмымі. Разгарачаныя спіртным мужчыны пасварыліся, што і прывяло да бойкі. Гаспадар атрымаў раненні ў грудную клетку і брушную паражніну, апроч таго яму адрэзалі палавы орган. Траўмы аказаліся несумяшчальныя з жыццём. Злачынцы затрыманыя.

### Кіраўніка калгаса пасадзілі за збіццё падначаленых

Кіраўніка аднаго з сельскагаспадарчых прадпрыемстваў Светлагорскага раёна прысудзілі да трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Сярод збітых ім — п'яны трактарыст, якога начальнік падазраваў у крадзяжы саляркі, а таксама заатэхнік, які збіраўся звальняцца. Начальнік збіў яго «ў выхаваўчых мэтах».

### Ішоў у капюшоне і слухаўках

На пешаходным пераходзе ў Бабруйску пад манеўровы цеплавоз трапіў 22-гадовы хлопец. Малады чалавек, які ішоў у капюшоне і слухаўках, атрымаў чэрапна-мазгавую траўму і ампутацыю ступні. Цягнік ехаў з хуткасцю 15—20 км/г. Машыніст заўважыў хлопца, пасігналіў і пачаў экстранна тармазіць, але наезду пазбегнуць не ўдалося.

### Загінуў пад фурай падчас рамонту

Трагедыя адбылася на праспекце Кляцкова ў Гродне. Фура з дзяржнумарамі Мінскай вобласці спынілася непадалёку ад рэстарана «Туран». Кіроўца спрабаваў ліквідаваць нейкую непаладку, прыпаднаўшы дамкратам платформу машыны. Аднак дамкрат сарваўся, і мужчына апынуўся паміж колам і платформай. Мінакі выклікалі хуткую, аднак ратаваць кіроўцу не ўдалося.

### 87-гадовую жанчыну злавілі на крадзяжы

У Гродне ў суд перададзена справа 87-гадовай жанчыны. Яна падазраецца ў крадзяжы чужой маёмасці з ячэйкі для захоўвання рэчаў у краме. Раней да крымінальнай адказнасці жанчына не прыцягвалася.

### Труп немаўляці каля сметніцы

Цела нованароджанага выявіў на вуліцы Маладзёжнай у Нясвіжы мясцовы жыхар. Чорны пакет, ужо разарваны, візуальна ляжаў на пляцоўцы сметнічных кантэйнераў. З яго тырчала дзіцячая ручка. Мабыць, нехта дастаў мяшок са смецевага бака раней і, убачыўшы страшную знаходку, павесіў на плот. На целе дзіцяці няма прыкмет гвалтоўнай смерці. Жываннароджаны ён ці не, вызначыць экспертыза.

### Не пайшла ў падземны пераход

66-гадовая жанчына перабягала 8-палосны праспект Дзяржынскага ў Мінску. Яна ішла з крамы «Алмі» і пачала пераходзіць дарогу не па падземным пераходзе, размешчаным побач, а па праезнай частцы дарогі. Яна ўжо амаль скончыла пераход, калі ў першай або другой паласе яе збіў «Форд Мандэа», якім кіраваў 20-гадовы хлопец. Ад атрыманых траўмаў жанчына загінула на месцы.

**БЮ**

# Кіраўніцтва расійскай пракуратуры вяло бізнэс з бандай забойцаў

**Шакуючае расследаванне Фонда барацьбы з карупцыяй.**

Расійскі палітык Аляксей Навальны і ягоны Фонд барацьбы з карупцыяй апублікавалі грунтоўнае расследаванне, датычнае бізнэс-інтарэсаў сям'і генеральнага пракурора Расіі Юрыя Чайкі, а таксама яго намеснікаў. 40-хвілінную відэаверсію ўжо прагледзела ў інтэрнэце больш за 3 мільёны чалавек.

Сям'я Чайкі абяцае падаць у суд і называе расследаванне «заказухай», аднак Навальны гатовы падмацаваць дакументамі кожны факт.

У чым жа вінавацяць Юрыя Чайку і яго сваякоў?


Юрый Чайка.

### Грэчаскі гатэль пракурорскіх сем'яў

У маі 2014 года на грэчаскім паўвостраве Халкідзікі запрацаваў шыкоўны гатэль *Pomegranate*, які каштаваў інвестарам да $30 мільёнаў. На ўрачыстае адкрыццё з'ехалася расійская бізнэс-эліта, палітыкі і поп-зоркі, з вітальным словам выступаў міністр культуры.

Як выявілася, гэты гатэль належыць 40-гадоваму сыну генпракурора Арцёму Чайку і 52-гадовай Вользе Лапацінай, жонцы намесніка генпракурора. Абое маюць непадалёку шыкоўныя вілы з відам на гару Афон.

Муж Лапацінай у свой час праславіўся тым, што паводле паказанняў падзельнікаў, апекаваўся сеткай падпольных казіно ў Падмаскоўі.

Цяпер Лапаціны фармальна знаходзяцца ў разводзе, аднак Навальны запэўнівае, што гэта зроблена, каб не запісваць актывы жонкі ў дэкларацыю аб даходах намесніка пракурора.

Журналісты сталі шукаць падрабязнасці біяграфіі Вольгі Лапацінай і знайшлі шакуючы факт. Яна была заснавальніцай кампаніі «Цукар Кубані» разам з жонкамі краснадарскіх бандытаў Сяргея Цапка (прысуджаны да пажыццёвага зняволення, памёр у турме) і Вячаслава Цапавяза (прысуджаны да 20 гадоў зняволення). Свае тэрміны яны атрымалі за жорсткае забойства 12 чалавек, сярод ахвяраў было спаленае жыўцом немаўля.



Гатэль у Грэцыі.

Жонка Цапавяза прызнала, што была заснавальніцай кампаніі, аднак патлумачыла, што справамі займаўся яе муж.

«Цапкі» трымалі ў страху станіцу Кушчоўская з маўклівай згоды мясцовых сілавікоў. У свой час пракурор Краснадарскага края, сябар Чайкі, спыніў крымінальную справу ў дачыненні да кіраўніка банды, які пабіў паліцэйскага.

Нарэшце, чацвёртая сузаснавальніца «Цукра Кубані» — Надзея Стараверава, жонка кіраўніка справамі пракуратуры. Менавіта ў катэджы Старавераўых хавалася «банда ГТА» — злачынцаў, якія забілі на падмаскоўных аўтатрасах 14 чалавек. Яны падкідвалі на дарогу шыпы, а калі кіроўцы выходзілі з машын, расстрэльвалі іх. У доме пракурора знаходзіўся і іх склад зброі і боепрыпасаў.



Арцём і Ігар Чайкі — байкеры. У Арцёма нават ёсць свой клуб «Жалезныя птушкі». На адкрыцці сезона браты прыязджалі ў Мінск. У першых шэрагах моташэсця быў і Віктар Лукашэнка.

### Рэйдарская бізнэс-імперыя Арцёма Чайкі

У дакументах на права валодання зямлёй у Грэцыі Арцём Чайка пазначаны як рэзідэнт Швейцарыі. У гэтай краіне ён плаціць падаткі. Мае і шыкоўны маёнтак.

Грашыма Чайкі ў Швейцарыі доўгі час кіравала фірма Мурата Хапсікорава, цяпер ён сенатар у расійскім Савеце федэрацыі. Ягоны бацька доўгі час быў «заўхозам» у пракуратуры і ў канцы 1990-х выдаў Юрыю Чайку элітны ўчастак на Рублёўцы. Па ацэнках рыэлтараў, кошт будаўніцтва дома плошчай 1900 м² перавысіў $10 мільёнаў. Адметна, што катэдж шмат гадоў не ставілі на ўлік, каб не ўказваць у дэкларацыі і не плаціць падаткі.

Адкуль жа сын генпракурора ўзяў грошы? Будаўніцтва ягонай разгалінаванай бізнэс-імперыі пачыналася з рэйдарскага захопу параходства ў Іркуцкай вобласці, сцвярджае Навальны.

Праз карупцыйныя схемы з дзяржаўнай маёмасці былі выведзеныя 12 суднаў. Папярэдні дырэктар параходства ў сюжэце «Першага канала» заявіў, што за захопам прадпрыемства стаіць Арцём Чайка. Праз два дні пасля запісу сюжэту дырэктар быў знойдзены павешаным ва ўласным гаражы. Судмедэксперты прыйшлі да высновы, што гэта не было самагубства, аднак пракуратура Іркуцка, якую ўзначальвала сяброўка Чаек, не стала заводзіць крымінальную справу.

Цеплаходы, якія перайшлі да сына генпракурора, зарэгістраваныя ў афшоры на Мальце.

Таксама Арцёму Чайку належаць прадпрыемствы па здабычы солі (на конкурс па іх прыватызацыі дапусцілі толькі фіктыўная кампаніі), заводы друзу (выведзены са структуры чыгункі, цяпер выйграюць тэндар за тэндарам па пастаўках для чыгункі), а таксама будаўнічы і юрыдычны бізнэс.

Яскравы прыклад «поспехаў» — пясчаны кар'ер у Калужскай вобласці. Праца суседняга радовішча-канкурэнта паралізавана пракурорскімі праверкамі. Ініцыятарам праверак стаў дэпутат Алег Мітволь, які мае з Чайкам агульны бізнэс. Ну а санкцыянаваў праверкі абласны пракурор, бацька якога — намеснік генпракурора Юрыя Чайкі. У рэшце рэшт у радовішча-канкурэнта забралі ліцэнзію.

### Малодшы сын далучаецца да сямейнай справы

Асобны раздзел расследавання прысвечаны 26-гадоваму Ігару Чайку, малодшаму сыну генпракурора. Паўтара года ён быў дарадцам губернатара Маскоўскай вобласці па пытаннях культуры, моладзевай палітыкі і спорту. Асабліва шчыраваў у горадзе Клін. Чаму менавіта тут?

Мэр Кліна — жонка фігуранта справы аб «крышаванні» пракуратурай нелегальных казіно. А адміністрацыю горада ўзначальвае былы пракурор, таксама фігурант справы, які быў абвешчаны ў міжнародны вышук.

Ігар Чайка прадаў кіраўніцтву Кліна брэнд-бук горада — інструкцыю, як афармляць шыльды і навігацыю.

Таксама яго кампанія займаецца афармленнем маскоўскіх вакзалаў, добраўпарадкаваннем паркаў. Агулам удаецца выйграваць падрадаў на $30—50 мільёнаў штогод. Прычым у тэндарах амаль заўсёды ўдзельнічаюць кампанія Чайкі і фіктыўныя канкурэнты. Яны зарэгістраваныя па адным адрасе і іх склад не зьмяняецца.

Іншы бізнэс Ігара Чайкі — доля ў вытворчасці бетону і шпалаў. Ягоная кампанія спецыялізуецца на тэндарах для расійскай чыгункі.

### «Гэта правал дзяржавы»

Аляксей Навальны спадзяецца, што пасля публікацыі расследавання Юрый Чайка будзе адпраўлены ў адстаўку. Права звольніць пракурора ёсць толькі ў прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Зрэшты, ніводнае ранейшае расследаванне не прыводзіла да рэальных звальненняў.

Апаненты Навальнага закідаюць яму, што кампрамат на Чайку мог быць сабраны з дапамогай ягоных праціўнікаў, напрыклад, старшыні следчага камітэта Аляксандра Бастрыкіна. Навальны на гэта адказвае, што ў свой час праводзіў расследаванне і пра дзейнасць Бастрыкіна.

«Адзіная функцыя сістэмы — служыць інтарэсам карумпаваных чыноўнікаў. Гэта вялікая і няпростая праца: пакрываць «сваіх», караць «чужых». Распачынаць крымінальныя справы для ворагаў і закрываць для сяброў. Да нас, звычайных людзей, сістэме справы няма. Мы ў лепшым выпадку прыкрая перашкода ў справе зараблення грошай усімі даступнымі спосабамі. Гэта і ёсць правал дзяржавы. Мы маем уладу, якая стала не проста шкоднай дарагой надбудовай, а цэнтрам усяго самага амаральнага і бессаромнага», — падсумоўвае Навальны.

Ягор Марціновіч

# 1990-я. Час прыніжэнняў ці эпоха надзей?

З падачы лідара грамадскай кампаніі «Гавары праўду» Андрэя Дзмітрыева ў фэйсбуку разгарэлася гарачая дыскусія пра пачатак 1990-х. Чым быў гэты перыяд: часам пакутаў і прыніжэнняў ці часам надзеі на будучыню? У сваім блогу на «Беларускім партызане» Дзмітрыеў напісаў такую фразу: «Для мяне, сына афіцэра і настаўніцы, 90-я — гэта чорная паласа прыніжэнняў ад жудаснага безграшоўя і поўнай сацыяльнай бездапаможнасці».

У мяне асабіста не надта вялікая розніца ва ўзросце з Дзмітрыевым (у 1991-м мне было 6 гадоў, я пайшоў у першы клас, Дзмітрыеву ў той час было 10). Таму адказаў на ягоную рэпліку ў фэйсбуку: маўляў, у маім дзіцячым успрыманні 1990-я — гэта самыя бесклапотныя гады жыцця. Калі думаеш не пра грошы, а гульню ў футбол з сябрамі, рыбалку, як скрасці яблыкі ў калгасным садзе, а таксама чакаеш не дачакаешся нядзелі, каб паглядзець незвычайныя дыснэеўскія мульцікі.

Так, я адразу папярэдзіў, што гэта выключна дзіцячае ўспрыманне. Я не быў у скуры падлетка ў той час, людзей сярэдняга ўзросту ці пенсіянераў. Мабыць, іхнія ўспаміны будуць крыху адрознівацца ад маіх.

Мы жылі ў сярэдніх памераў вёсцы ў Барысаўскім раёне. Бацька працаваў аграномам у калгасе, маці — прадаўшчыцай у КБА (камбінат бытавога абслугоўвання). Не, бацька не краў нічога з калгаса, бо быў перакананым камуністам, які не выкінуў свой партбілет і па сёння, і сям'і не дазваляў нават кукурузу красці. Мабыць, таму і жылі дастаткова бедна нават па вясковых мерках.

Выжывалі на тым, што мелі дзве каровы. Летам і восенню маці стабільна раз на тыдзень ездзіла ў Барысаў на базар, каб прадаваць малако і тварог. З гэтага, па вялікім рахунку, і жылі. За гэта і куплялі нам, малым, жуйкі і чабурэкі. Снікерсы і баўнці, як і ўсе, бачылі раз на месяц.

Але ж колькі працы мусілі перараблівацъ за лета, каб утрымліваць кароў! Нават для малых дзяцей нямала. І разбіць сена, і павярнуць некалькі разоў на дзень, а потым згрэбсці на ноч у капешкі, бо раптам пойдзе дождж, звезці з сенажаці, закінуць у пуню. А яшчэ, каб атрымаць у калгасе сена, трэба было палоць буракі. Маці брала па 15 баразнаў. Стаіш, таўчэш матыкай, а гэтым баразнам канцакраю не відаць. Чэсна, больш катаржнай працы ў маім дзяцінстве не было.

Але ж усе неяк так стаялі ракам у тых бураках. І «багатыя» вяскоўцы, і «бедныя». І мае тагачасныя сябры Дзяніс з Вовам, што прыязджалі на канікулы з Барысава да бабы з дзедам, таксама палолі. Затое вечарам распальвалі вогнішча ды смажылі на прутах сала. Я прыносіў з дому салёных гуркоў, яны — марынаваных. І было настолькі добра, што не перадаць словамі. Увогуле ж, мне здаецца, што людзі ў той час умелі весяліцца. Якія святы закатвалі, на паўвёскі. Цяпер такое мала дзе сустрэнеш.

А былі яшчэ ягады. Мая сястра дзякуючы ягадам магла купляць сабе абноўкі.

Так, магчыма, у крызісныя часы выжываць у вёсцы было прасцей. У нас былі свінні, куры, гусі. Бульба, гуркі, памідоры, капуста. Варэнне на зіму. Здаецца, што не галадалі. Прынамсі, я не помню, каб галадалі. Калі не хапала прысмакаў, то на дапамогу прыходзіў універсальны рэцэпт. Бярэш акраец чорнага хлеба, макаеш яго ў ваду, а потым абсыпаеш цукрам. Смаката!

Усе жылі прыкладна аднолькава. Ніхто не ездзіў летам у Крым, ніхто не будаваў сабе катэджаў. Апраналіся таксама аднолькава. Ва ўсіх было па адным парадным швэдры і пара штаноў, а таксама спартыўны касцюм. Апраналіся ўсе ў адным месцы — на базары ў барысаўскім Старым горадзе.



За лета марожанае ў нашую вясковую краму прывозілі добра калі два разы. І ў маім дзіцячым разуменні гэта было шчасцем, а не прыніжэннем. Зноўку ж, мае аднакласнікі былі абсалютна ў такіх самых умовах.

У каментах да майго допісу ў фэйсбуку напісалі, што гэта не быў час прыніжэнняў, а час выпрабаванняў. Хіба ў 80-я было лепш? Цукар знік з паліцаў не ў 90-я, а пры Гарбачове. Мая цётка згадвала, як толькі па талонах можна было выпісаць паўзункі. У 90-я маразму ўсё ж паменела.

Мне здаецца, што часткова нават мы, малыя, разумелі, што жывём у незвычайны час пераменаў, што трэба перацярпець — і ўсё будзе. Які персанальна ў мяне ажыятаж і захапленне выклікалі новыя беларускія грошы з бабрамі і ласямі. Ох, наколькі прыгожымі яны мне здаваліся! І наколькі нягеглымі на іх фоне падаваліся расійскія і савецкія купюры.

А ў які экстаз прыводзілі першыя перамогі беларускіх спартоўцаў — Святланы Парамыгінай і Ігара Жалязоўскага — на Алімпіядзе-1994. І нават у той час мне не хацелася аб'ядноўваць іх з расійскімі ці ўкраінскімі ўзнагародамі, каб было болей. Свае суверэнныя кругляшы грэлі душу значна больш.

А яшчэ помню, як у пачатку 90-х кепска тэлевізары ва ўсіх працавалі. І каб наладзіць адпаведны тэлеканал, то трэба было ўзлезці на дах і павярнуць антэну ў патрэбны бок. На Маскву і на Мінск, як мы казалі. А нехта з родных з акна табе крычаў: «Досыць! Добра ўжо! Больш не сняжыць». Потым трэба іншы канал наладзіць — і зноў той самы няхітры прыём з антэнай. Ужо пазней з'явіліся «польскія» антэны, ці, як іх яшчэ называлі, «энтэвэшкі».

Мы збіралі фанцікі ад нейкіх незразумелых турэцкіх жуек *Tipi-Tipi*, дзе насаты персанаж трапляў у розныя прыгоды. У якія? Мы маглі толькі дадумваць. Яшчэ былі жуйкі *Turbo* і *Love is*.

Я адмыслова нічога не кажу пра палітычныя свабоды. Бо нічога не цяміў аб іх у той час.

Мне здаецца, што, увогуле, амаль у кожнага чалавека ўспаміны з дзяцінства пакідаюць светлы след. Вось таму мяне так зачапіла гэта слова «прыніжэнне». Зрэшты, у кожнага свой досвед.

Баюся, што сёння прыкладаў прыніжэнняў чалавечай асобы нават больш. Тады гэтак сама жылі і эстонцы, і палякі, і грузіны. Увесь постсавок так жыў. І дзе сёння эстонцы, а дзе мы? Многія вяскоўцы па сёння жывуць амаль у тых самых умовах, як на пачатку 90-х. І вельмі часта не таму, што п'яніцы і лайдакі. Вось гэта ўжо прыніжэнне.

**Зміцер Панкавец**

Прапануем вашай увазе яшчэ некалькі ўспамінаў пра 90-я з фэйсбуку. А якім той час запомніўся вам?

**Дзмітры Гурневіч (родам з Налібак, Стаўбцоўскі раён):** А мне першая палова 90-х узгадваецца выдатна. Жылося небагата, але голаду не было. У школе не хапала кніжак, пісалі ўсё ў сшыткі з дыктоўкі настаўніка.

Так, лёгка не было. А калі ў нас было лёгка? Але адчувалася, што няма панурасці і апушчаных рук таксама.

Атмасфера была светлая, і бацькі, здаецца, часцей усміхаліся. Усе дарослыя навокал круціліся. Адкрывалі нейкія бізнэсы, мелі вялікія планы. Усё віравала. Хата заўсёды была поўная сваякоў. Амаль кожныя выхадныя нехта прыязджаў: цёткі, дзядзькі, госці. Адзін аднаму дапамагалі.

Калі грабеш сена ў полі і ідзе хмара, то ўсе суседзі навокал бягуць з граблямі і ратуюць тваё сена. У вёсцы працавала кнігарня, дзе за капейкі я накупляў кучу кніг. Была пякарня са смачнымі булачкамі. Праз некалькі гадоў усё гэта зачынілі. Былі святы ў вёсцы. Прыязджалі пісьменнікі, эмігранты з усяго свету.

З аднакласнікамі хадзілі да старэйшых людзей памагаць, то дровы скласці, то двор выграбці перад святамі. У маладой сям'і згарэла хата — уся вёска складваецца, нясе рэчы.

У нядзелю пасля імшы заўсёды нехта зойдзе ў госці. Увогуле, пасля адкрыцця касцёла на пачатку 90-х людзі ажывіліся, старыя нават не хацелі ўжо так хутка паміраць. Чакалі фэстаў. Адчувалася супольнасць.

І хаця сушаў і кебабаў тады не ведалі, а снікерсы былі раз на месяц, адсутнасць нечага шыкоўнага не шакавала і нават не засталася ў памяці як нешта вызначальнае.

**Іван Панасюк (Брэст):** Мае бацькі — інжынер і настаўніца — і пры Саветах з золата не елі. Пасля дэбільных 80-х, калі ўсё па талонах і нічога не было, у 1991—1995 было нават лягчэй. Ну і свабода, ясная рэч. Ніякіх табе маразмаў. Якая прыніжанасць? Наадварот было: мы тады людзьмі сябе адчулі.

**Іван Шыла (Салігорск):** Усяго не хапала. Бацькі маю кніжку падарылі іншым, бо не было наогул чаго падарыць. Ім было сорамна, мне крыўдна да слёз. Вопраткі не хапала, салодкага. А калі адправілі мяне ў Мінск, у «мак», дык далі грошы на адно марозіва. Адно! Гэтая траўма ў мяне дагэтуль.

Я памятаю чэргі, дзе я стаяў з дзедам, памятаю адзін банан на месяц, бацьку, які працаваў на будоўлі ў Маскве, бо ў маці не было працы зусім.

**Аляксей Шыдлоўскі (Стоўбцы):** Мае 90-я былі выдатныя. У школе перасталі вучыць надзяваць супрацьгаз. З'явілася магчымасць свабоднага заробку. Акрамя працы ў раёнцы і вучобы ў школе, прыкупляў у Баранавічах ягады ды перапрадаваў у Менску. Прадаваў «Прессбол» у пераходах метро. Памятаю, як разам з настаўнікам фізкультуры плакалі, калі Парамыгіна ўзяла срэбны алімпійскі медаль на першай суверэннай алімпіядзе пад бела-чырвона-белым сцягам. Новыя гады з хлопцамі адзначалі, 94-ы і 95-ы, — сталы былі такія, што і цяпер было б не сорамна. За свае заробленыя. У 96-м скончыў школу і паступіў у БДУ (на платнае). Пачаў працаваць адразу таксама. Калі б не Лукашэнка, думаю, на пазітыве ішло б і далей, але ж... Думаю, у кожнага былі свае 90-я.

**Аляксандр Пашкевіч (Лагойскі раён):** 1990-я гады ў мяне роўна напалову разбіваюцца: палова на вёсцы, палова ў горадзе ў студэнтах. Бацькі багатыя не былі, звычайныя вясковыя настаўнікі. Але нейкай асаблівай фрустрацыі з-за незаможнасці не памятаю, каб адчуваў. Праўда, для мяне матэрыяльнае ніколі і не стаяла на першым месцы. А ў духоўным плане тады цікавей было, чым цяпер.

**Яўген Скрабутан (Зэльва):** А я ў 90-я школьнікам прытаргоўваў на базары. Маці прывозіла з Польшчы сухія лёды, будыны, снэкі, а я малы прадаваў на базарчыку. Потым да мяне далучылася цётка са скрынкай жуек з футбалістамі, а пазней пайшло і паехала: з'явіліся кіёскі, снікерсы, амерыканшчына… Эх, харошы быў час! Беларускамоўны першы клас: Графіня дэ Сэгюр, «Крынічка».

А вось у другой палове часам было складана...

**Віктар Шукеловіч:** У нас у Жупранах у 90-х антэны не лавілі БТ, мульцікі мы глядзелі толькі па Расеі і па літоўскіх каналах. Дагэтуль памятаю, як па-літоўску будзе «ваша вялікасць» — «юсу дідянібя». Тады яшчэ былі дыктаркі, якія ўзнікалі паміж праграмамі і казалі, што тое-і-тое будзе а той-і-той гадзіне.

Раз жупранскія спявачкі паехалі на «Запрашаем на вячоркі» ў Мінск. І пазней гэта паказвалі па БТ, а ў суседзяў ні ў кога не цягне. Як жа я лётаў, памятаю, са старымі па вуліцы, пытаючы, у каго ідзе БТ! Памятаю, глядзелі ў адной хаце — 15 чалавек набілася. Чорна-белы тэлевізар, і ўсё было з памехамі. «Глядзіце, глядзіце, а ў тым кошыку мы самагонку па студыі насілі», — расказвала Марыся Харкевіч, якая ездзіла тады на «Вячоркі» спяваць.

**Андрэй Скурко (Крывічы, Мядзельскі раён):** У 1992 годзе судовыя органы Рэспублікі Беларусі афіцыйна рэабілітавалі майго прадзеда, Івана Чарняўскага.

У пачатку 90-х, дарэчы, пры раённых пракуратурах былі спецыялісты, якія займаліся рэабілітацыяй асуджаных у часы сталіншчыны. А ці многа рэабілітавалі за апошнія 20 гадоў? Гэта я пра «паласу прыніжэнняў», якую некаторыя адчуваюць.

Прадзед да афіцыйнага прызнання, што яму ні за што ламалі жыццё, не дажыў. Толькі 86-гадовая прабаба, яго ўдава, плакала, пабачыўшы паперу аб рэабілітацыі. На бланку стаяла пячатка з «Пагоняй».

**Міхась Янчук (Брэст):** Я памятаю, як свяціліся вочы майго бацькі ў пачатку 90-х, бо тады была свабода.

## Апытанка на nn.by

### Якімі Вам запомніліся 90-я: час прыніжэнняў ці час надзей?

| | | |
|---|---|---|
| Прыніжэнняў | 130 | 9% |
| Надзей | 1077 | 77% |
| Кожнаму сваё | 198 | 14% |

Усяго прагаласавала 1405.

# Балонья, Фларэнцыя, Верона, Чэнта…

Незабыўная Італія вачыма беларуса.

## Балонья

Аэрапорт Балоны адметны дзвюма рэчамі: простай, але геніяльнай формулай на развітанне «kiss and fly» і суперкарам «Ламбаргіні». Вымаўляць трэба менавіта так, а не з блізкім кожнаму беларусу «дж». Аўтамабіль стаіць у зале прылёту і з'яўляецца сапраўдным гонарам сталіцы Эміліі-Раманы — суперкар шырокі ў плячах і моцы ў ім столькі, што закіпае асфальт. Стаіць «бычок» (на лагатыпе залатога колеру раз'юшаны бык) не дзеля рэкламы, а транслюе простую думку: тут робяць рэчы з прыстаўкаю супер-.

Чаму б і нам замест таго, каб ствараць вобраз краіны-казіно, не выставіць у Мінск-2 трактары «Беларусь»? Дарэчы, і ў Балоні суперкар замяніць на трактар будзе цалкам слушна. Эмілія-Раманья — сельскагаспадарчы цэнтр краіны, а трактары *Lamborghini*, з якіх і пачыналася кампанія, спрыялі развіццю рэгіёна.

* * *

Каму цяжка ў Балоны, дык гэта прадаўцам капелюшоў і парасонаў. Горад аблытаны галерэямі-порцікамі, якія ратуюць у спёку. Галерэі з'явіліся дзякуючы студэнтам мясцовага ўніверсітэта, найстражытнейшага ў свеце (1088). Сталае памяшканне ўніверсітэт атрымаў толькі ў 1565, а да таго выкладалі па кватэрах, нібы Коласаўскі ліцэй. Не было і інтэрнатаў, студэнты здымалі пакоі ў мясцовых жыхароў, якія скарысталіся шчылінай у законах, што нерухомасць, якая «завісае» над зямлёй, не абкладаецца падаткамі. Так узніклі галерэі. Шмат хто тут вучыўся: Капернік, Дантэ, Петрарка, Скарына. Здымалі свой кут, вучылі канспекты, напэўна, гаспадыні бурчалі, што свечак шмат паляць ды водзяць сяброў. Жыццё ва ўсе часы аднолькавае.

* * *

*«Osteria Del Sole»* — мясцовая славутасць. Бар, у якім прыныпова не прадаюць ежу, але дазваляюць прыносіць сваю, пачаў сваю працу ў 1465. Толькі не цягніце гітары і бубны, граць і танчыць вам там не дазволяць, як і гуляць у шашкі ці «тысячу». Тут размаўляюць і п'юць віно.

* * *

Ведаеце, аб чым мараць італьянскія дзеці? Не пра піцу «Маргарыту» колераў італьянскага сцяга, не пра любыя ўсім дзецям на планеце спагеці. Не, гэта яны маюць і так. Іх мары пра «Макдональдс». «Вось вырасцем, — думаюць яны, — будзем есці толькі там». Мара, мабыць, не тое слова, але жаданне вялікае. Калі ж насамрэч становяцца дарослымі, густы іх ужо сфарміраваныя і прыходзіць разуменне, што луста хлеба з памідорам і алівкавым алеем лепшая за любы гамбургер. Бо ў аснове італьянскай кухні — майстэрства спалучаць простыя прадукты, раскрываць іх патаемны смак.

* * *

Балонья чырвоная, сытная. Цікава назіраць, з якім імпэтам італьянцы абмяркоўваюць рэгіянальныя асаблівасці прыгатавання якой-небудзь стравы. Італьянцы будуць нахвальваць свой рэгіянальны хлеб, рызота, піцу. Толькі вось ніхто не можа аспрэчыць статус Балоны як кулінарнай Меккі, бо пармезан, прашута, рагу баланьезэ, ла-занья і каўбасы кшталту салямі і мартадэлы паходзяць адсюль. Таму Балонья сытная. А чырвоная, бо навокал усё чырвонае: дахоўка, драпіроўка, цагляныя сцены і, у дадатак, тут самы вялікі ў краіне камуністычны электарат. Кулінарная сталіца Італіі, дзе пралетарыі ўсіх краін аб'ядналіся ў сваёй любові да «Ламбаргіні».

* * *

Увесь ліпень і жнівень на П'яца Маджорэ паказваюць італьянскую кінакласіку. Сіньёры ўжо паспелі павячэраць, вымыць посуд і замест начнога шпацыру ідуць глядзець кіно. Сёння паказваюць фільм 63-га года «Таварышы» пра цяжкую долю італьянскіх рабочых. Гэта карысна для нас, турыстаў, бо сёй-той палічыць, што ўвесь дабрабыт, усе гэтыя марціні ды фіяты зваліліся італьянцам з нябёсаў.

## Фларэнцыя

Не шукайце гэта месца ў трыпадвайзерах ці на старонках «Адзінокай планеты». Але яно нібы адмыслова створанае для рамантычнай вячэры. Гэта ферма моста Святой Тройцы, што насупраць Понтэ Век'ё — дастаткова скочыць на прыступку памерам у некалькі квадратных метраў. Віно, хлеб, сыр і эксклюзіўныя захады сонца — выключна вашы, як і зайздрасць усяго наваколля. Галоўнае — не зваліцеся ў Арно, бо там плаваюць метровыя нутрыі.

* * *

Капэла валхвоў — знакамітая фрэска Беноца Гоцалі на сюжэт прыбыцця валхвоў у Віфлеем. У вобразе валхвоў выступілі члены сям'і Медычы, узначальвае працэсію сам Ларэнца Цудоўны. Думка, што гісторыю робяць людзі, як нідзе моцна адчуваецца ў Фларэнцыі. Амаль тысячагоддзе Еўропа знаходзілася ў стане 35-гадовага бэйбуса, які моцна пагуляў у маладосці (антычны перыяд), а потым нарасціў бруха, і адзінае, што рабіў, — гэта разбіраўся ў сваім унутраным свеце (інквізіцыя ў барацьбе за чысціню, вогнішчы з кніг і нязгодных і г.д.). Дазмагаліся да таго, што не ведалі, як будаваць, бо недзе згубіўся рэцэпт цэменту. На антычнае глядзелі як на недасягальную вяршыню творчасці, быццам тое зрабілі не людзі, а іншапланецяне. Але крызіс сярэдняга ўзросту ўсё змяніў, імя яму было Медычы. Бізнэсоўцы, палітыкі, рымскія папы, але галоўнае – мецэнаты, яны падтрымалі людзей мастацтва і навукі, чым спарадзілі абуджэнне Еўропы. Брунэлескі, Рафаэль, Батычэлі, да Вінчы, Мікеланджэла, Галілей — вось некаторыя імёны тых, што атрымалі дапамогу Ларэнца Цудоўнага і яго сям'і. Можна спрачацца, рабілі яны тое дзеля ўласнага піяру ці была нейкая іншая выгада, галоўнае ж вынік. Тое, што праз фразу Галілея «і ўсё ж такі яна круціцца» да гагарынскай «паехалі» чалавецтва крочыла ў космас, ёсць у гэтым частка заслугі сям'і Медычы. Багатыя людзі вольныя як заўгодна распараджацца сваімі капіталамі, але ў гэтым і праяўляецца сапраўдны маштаб фігуры. Пампаваць нафту і гуляцца ў «Чэлсі» ці, як Юрый Мільнер, фінансаваць тэлескопы ў пошуках новых форм жыцця — у кожнага свой выбар. Пакуль адныя глядзяць у будучыню, другіх чакае сум забыцця.

* * *

Скульптар Ларэнца Гібэрдзі 50 год са сваіх 77 рабіў адну працу —

**Сэргэа Аліг'еры**

За кіламетраў 20 ад Вероны — знакамітыя вінаграднікі сям'і Дантэ Аліг'еры. Аўтар «Камедыі» быў выгнаны з Фларэнцыі. Яго сын П'ятра заснаваў тут вінакурню. Праз дваццаць адно пакаленне яна паранейшаму належыць сям'і, і паэзію нашчадкі не кінулі, проста ствараюць яе праз віно. Спалучэнне некалькі разоў ферментаванага віна з падсушаным вінаградам, водар чаршні, дуба немагчыма апісаць словамі. Гэтаксама, як і харасто краявідаў.

паўночныя і ўсходнія дзверы баптыстэрыя Санта Марыя дэі Ф'ёрэ. Мікеладжэла заўважыў: «Яны такія прыгожыя, што падышлі б для дзвярэй раю». Праца жыцця, адзіная, на ўсе часы.

* * *

Паўднёвыя еўрапейцы, як і іх суродзічы з Лацінскай Амерыкі, не ўяўляюць сябе без філіжаначкі кавы зранку, глытка ўдзень і абавязковага паўтору ўвечары. Без хлеба яны пражывуць, без алкаголю стрываюць, без кавы — ні дня. Як апісваў Маркес беднасць сям'і ў «Палкоўніку ніхто не піша»? Менавіта праз адсутнасць праажанага зерня. Гэта мы, паўночныя таварышы, калі п'ём раніцай каву, невядома, робім тое з жадання прачнуцца ці каб проста аб кубак рукі саграць. Хасэ, Марыі, Антоніа ды Альфонсы з Джульетамі знаходзяць у каве магчымасць сустрэцца ды абмеркаваць хто палітыку, хто незабіты пенальці, а хто проста новую спадніцу, што заўважылі на Ізольдзе, калі тая здраджвала мужу з Радрыга. Некалі ў Мадрыдзе я бачыў простых рабочых, што ў 4 гадзіны раніцы пілі каву ў бары. Ля грэцкага Афона я ішоў фатаграфаваць світанак, а незнаёмы мне рыбак сталага ўзросту выходзіў у мора. Праз некалькі гадзін яго я сустрэў у кавярні, дзе стары пад эспрэса нешта тлумачыў сябрам. Якія там крызісы? Кавярні і кава будуць апошнім, чым ахвяруюць гэтыя людзі. Калі з віном французы ды іспанцы неяк могуць канкураваць з італьянцамі, у справах кавы — роўных жыхарам Апенінаў няма. Кава з яскрава насычаным смакам, атрымліваецца моцнай і выразнай настолькі, што часам, здаецца, сэрца з душою вырвуцца і самастойна пойдуць у скокі.

* * *

«Усё-такі город грязноватый», — з адмысловым расейскім «ря» мы чуем ад маладой дзяўчыны. Разань? Ці, можа, яна, як і мы, з самага чыстага горада ў свеце? Хочацца думаць, што тое будзе не адзіным яе ўражаннем ад Фларэнцыі. Цікава, што мае белыя кеды тут так і засталіся белымі. Дый італьянцы ходзяць па доме неразутыя.

* * *

Ф'ярэнцінай клічуць мясцовую футбольную каманду і знакаміты фларэнційскі стэйк. Ён важыць не менш за кіло з Т-падобнай косткай. Кавалак смажаць па 3—6 хвілін з кожнага боку, у выніку стэйк выходзіць звонку нават абгарэлы, але ўнутры застаецца далікатным, ружовага колеру. Ніякай солі ды перцу, ужо потым, у талерцы, мяса можна апырснуць аліўкавым алеем. Малая колькасць солі — адметнасць фларэнційскай кухні, бо з-за высокіх падаткаў не кожны мог сабе дазволіць соль. Стэйк гатуюць з рэдкага віду ялавічыны — к'яніны. Парода, вядомая яшчэ з IV ст. да н.э., гадуецца выключна ў тасканскай даліне К'ян, можа дасягаць 2 метраў у вышыню і мець вагу, большую за 1700 кг. Бялюткія, нібы фарфоравыя, каровы. Акрамя Фларэнцыі вы нідзе больш такога не пакаштуеце. Таму, калі вам пашанцуе туды трапіць, ахвяруйце частку вашага бюджэту на бутэлечку к'янці і замоўце добры стэйк (ад 40 еўра за кг) — не пашкадуеце.

### Чэнта

Чэнта моцна пацярпеў ад двух землятрусаў. Амаль стагоддзе ўсё было ціха, а потым зямля ажыла. Першы раз здарылася ноччу, і кажуць, што не паспелі нават спужацца, другі раз адбылося ўдзень, і тое было жудасна. Дзеці ледзь паспелі выбегчы са школы, як там падала столь, офіс Рыкарда быў зруйнаваны. Да гэтага часу многія будынкі стаяць часткова пашкоджаныя, сярэднявечныя дэкоры як знялі з муроў, так яны і ляжаць на зямлі. У дзяржавы не хапае сродкаў на рэстаўрацыю, таму робяць павольна. Галоўнае, што не было шматлікіх ахвяр. Пасля другога землятрусу людзі некалькі дзён начавалі ў намётах, а потым за кошт мясцовай улады месяц адпачывалі на моры. Цяжкасці збліжаюць людзей, адрываюць ад розных там інтэрнэтаў, нагадваюць пра сапраўднае, вартае. Дзеці згадваюць той час з захапленнем, як вялікую вандроўку з бацькамі, дарослыя разумеюць усе рызыкі і каштоўнасць кожнай хвіліны.

* * *

Па аўторках у Чэнта ладзяць кірмаш, дзе фермеры гандлююць прадуктамі ўласнай вытворчасці. Цэны даволі высокія, бо за якасць і экалагічнасць даводзіцца плаціць. Але заўсёды ёсць выбар паміж таннымі «Е»-прадуктамі з супермаркетаў і прадукцыяй ад фермераў, дзе жывёла гадуецца на волі і спажывае толькі натуральны корм без розных там магічна-біялагічных дадаткаў.

* * *

Мафія. Пакуль усе жанчыны Савецкага Саюза церлі вочы ад слёз па цяжкай жаночай долі рабыні Ізаўры, мужчынская частка з прыдыханнем назірала за прыгодамі камісара Катані. Хто ведае, магчыма, менавіта пад уплывам серыяла «Спрут» мы і атрымалі знакамітыя бандыцкія 90-я. Стылістыка, метады і, галоўнае, прынцып, што мафія бессмяротная, сталі мадэллю паводзін для вызваленага з-пад савецкага прыгнёту грамадства. На жаль, мафія існуе не толькі на экране, яна — частка італьянскага жыцця, з якой вымушаныя ўсе лічыцца. Наш сябар Рыкарда распавёў пра тое, як яго кампанія набыла невялікую вытворчасць у Неапалі і сутыкнулася з тым, што частка прадукцыі некуды пастаянна знікала. Накіравалі туды інспектара і высветлілі, што тавар проста перакідвалі праз плот. Але інспектар быў не роўня Катані, на другі дзень, знайшоўшы ў сваім нумары труну, імгненна сабраў рэчы і з'ехаў. Як вынік, кампанія махнула рукою на гэткі «рэвалюцыйны падатак» і стала лічыць тое сацыяльным укладам у мясцовае жыццё. Паўночныя італьянцы кажуць, што гэта ўсё на поўдні, а індустрыяльная поўнач — зусім іншая. Сільвіа Берлусконі нават разглаваўся і, жартуючы, мовіў: «Калі я даведаюся, хто з'яўляецца аўтарам «Спрута», то, клянуся, я прыдушу яго». Што магло выклікаць такую рэакцыю палітыкабізнэсоўца? Верагодна, тое, што разбураўся кінематаграфічны вобраз бестурботнай Італіі з яе танцамі пад Чэлентана і сумнаіранічным неарэалізмам. Як сапраўдны «self-made man», ён разумеў фактар іміджу і, як патрыёта, гэта яго непакоіла. Але час усё згладжвае, і праблемная для саміх італьянцаў мафія стала ўспрымацца іншаземцамі як нешта фальклорнае. Толькі вось пра хісткую мяжу паміж кіно і жыццём усё ж варта не забываць.





**Пінокіа** — хлапец тасканскі. Менавіта тут Карла Калодзі прыдумаў гісторыю пра драўлянага чалавечка, якая потым была перакладзена на 300 моў. Блізкі нам з дзяцінства Бураціна з «Беларусьфільма» — не што іншае, як імпартазамяшчэнне. Цікава, што Бураціна так і застаўся драўляным, у адрозненне ад Пінокіа, які праз маральныя ды фізічныя высілкі стаў чалавекам.

* * *

Італьянская вёска нагадвае польскую: усё засеяна, дагледжана. Выязджаючы за горад, амаль не бачыш розніцы, хіба дамы сталі ніжэйшыя і зрэдку сустракаюцца каровы. Няма адчування таго, што за спінай застаецца цывілізацыя: асфальт і інтэрнэт паўсюль. Зразумела, у горадзе большыя магчымасці, але жыццё там даражэйшае і экалогія зусім іншая. Яшчэ кажуць, што ў вёсцы бяспечна, але з гэтым ёсць цяжкасці. Беларуска Таня з мужам Алесандра жывуць, як бы сказалі ў нас, на хутары і пакідаць яго без дагляду баяцца, бо ўжо не адной-чы іх рабавалі. Сістэмы бяспекі бандзюкі абыходзяць, а сабаку могуць атруціць.

* * *

«Bello» перакладаецца з італьянскай як «прыгожа» і з'яўляецца адзінкай вымярэння ўсяго годнага, сапраўднага, вартага. Апранацца, будаваць, рабіць аўтамабілі, піць віно, спажываць ежу — усё трэба рабіць прыгожа, бо інакш тое будзе не па-італьянску.

### Ферара

Нягледзячы на назву, *Ferrari* не вырабляюць у горадзе Ферара. Галоўны офіс і вытворчасць знаходзяцца ў Маранэла, паблізу Мадэны.

***

На плошчы ля замка князёў Д'эстэ, што ў Ферары, стаіць помнік Саванаролу. Манахдамініканец ферарскага паходжання ўвайшоў у гісторыю адным з самых жорсткіх дзеячаў царквы XV ст. Ён хацеў вярнуць Царкву да вытокаў, дзе не павінна быць месца індульгенцыі і раскошы клірыкаў. Іншая справа, што за добрымі ідэямі хаваліся фундаменталізм і непрыняцце свецкага. Усё скончылася традыцыйна — карная сістэма паглынула свайго найлепшага вучня. Пабornік сярэднявечных «скрэпаў» быў спярша павешаны, а потым спалены ў Фларэнцыі.

### Балонья

Раніца. Кава. Амаль не спалася. Аэрапорт. Kiss and fly. Бязмежна ўдзячныя, мы крочылі ў бок самалёта, калі пайшоў дождж і ледзь чутна гучала яго мармытанне: «Вы ж куртак балонеевых не набылі. Мо застанецеся?»

**Андрэй Дзмітранок, фота аўтара**




**Верона**

Знакамітай Верону зрабіў англічанін Шэкспір. Дзякуючы самай сумнай аповесці на свеце — той, што «аб Рамэа і Джульеце». Не цудоўная каларыстыка горада, не старэйшая за рымскі Калізей Арэна, а менавіта гэтая прыдуманая гісторыя вабіць турыстаў. Вам пакажуць дом, дзе нібыта жыла Капулецці, балкон, пад якім быццам сумаваў яе Мантэкі. Усе разумеюць, што гэта казка, але гуляюць у гэтую гульню.




У Жодзіне прайшлі спаборніцтвы па экстрэмальным бегу. На сямікіламетровай трасе, якую зрабілі паблізу мясцовай электрастанцыі, спартсменаў чакалі перашкоды, пераадолець якія слабакам было немагчыма. Ім прыйшлося цягаць мяхі і колы, біцца з чальцамі каманды па амерыканскім футболе, перапраўляцца праз раку па канатах, быць бурлаком і поўзаць пад калючым дротам.

Заўзятары ФК «Нёман» вывесілі банер з выявай Янкі Купалы і радкамі яго верша падчас матча на кубак краіны з мінскім «Дынама» (0:1).



Дзеці Міхаіла Грабоўскага ў вышыванках заклікаюць галасаваць за тату пры выбары гульцоў для хакейных каманд матча зорак НХЛ. Беларускі хакеіст Міхаіл Грабоўскі, які выступае за «Нью-Ёрк Айлендэрз», ніколі не ўдзельнічаў у гэтым прэстыжным шоу.




«Беларусбанк» выпусціў гістарычна-рамантычны каляндар па-беларуску. Дванаццаць сюжэтаў календара ў фантазійнай стылістыцы фотакалажа ўзнаўляюць прыгожыя рамантычныя легенды з гісторыі нашай краіны. «Мала што параўнаецца веліччу і прыгажосцю з радавым гняздом Сапегаў. Нездарма Ружаны прazвалі «беларускім Версалем»!» — гаворыцца ў апісанні да гэтага фотаздымка.



Цэнтральны кратар італьянскага вулкана Этна выкінуў 3 снежня фантан лавы — яго вышыня дасягала аднаго кіламетра. Слуп попелу, выкінутага разам з лавай, падняўся на тры кіламетры над вулканам. Вывяржэнне Этны было кароткачасовым, але адным з наймацнейшых за апошнія два дзясяткі гадоў.



## Анекдоты і жарты

* * *

– Хто вы па спецыяльнасці?
– Я — Дзед Мароз.
– Баюся, вы нам не падыходзіце.
– Баюся, хтосьці застанецца без падаруначка.

* * *

Абвестка: 55-ці гадовая жанчына, маці траіх праграмістаў, просіць каго-небудзь непсіхованага навучыць яе карыстацца інтэрнэтам.

* * *

Калі паедзеце ў Грэцыю, не забудзьцеся наведаць гару Афон: адтуль адкрываецца цудоўны від на вілу сына генеральнага пракурора Расіі Чайкі!

* * *

Галоўнае, што разумееш падчас размовы з водаправодчыкамі і электрыкамі: калі чалавек займаецца чымсьці 20 гадоў, гэта яшчэ не значыць, што ён умее гэта рабіць.

* * *

– Ганначка, ты калі-небудзь чула слова «далікатнасць»?
– Так, чула... У мяне ў пральнай машыне такі рэжым ёсць!

* * *

— А давайце адправім мяне ў адпачынак! Я паеду, а вы тут адпачняце...

* * *

Тата прыходзіць дадому пасля цяжкага дня:
– Прывітанне, дачка, ты купіла новую сукенку?
– Не.
– Пафарбавалі валасы?!
– Не.
– Тады што ж?!
– Яна ў ваннай... Я — яе хлопец.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Весткі з Віцебшчыны.** З 57 савецкіх маёнткаў толькі ў двух вядзецца добрая гаспадарка: у Стойках Гарадоцкага павета і ў Красным Бары. У другіх увесь ураджай з'ядаюць самі парабкі. Характэрна, што цыганы жывуць ва ўсіх маёнтках, як камуністы, з натуры. Сяляне гэтак ненавідзяць бальшавіцкі рэжым, што ў Себежскім і Веліжскім паветах усе валасныя дамы спаленыя «зялёнымі», каб не было дзе сядзець ненавісным рэўкомам.

**«НН». №7. 1920.**

**«Свабода прыйдзе ў Беларусь за адну ноч».** Такое прароцтва было зроблена вядомым пратэстанцкім прапаведнікам два гады таму. Гэтыя словы перадаюць з вуснаў у вусны. Можна верыць прароцтвам, можна — не, але сам факт сведчыць: усё больш людзей у краіне прагнуць пераменаў.

**«НН». №46. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 08.12.2015.
Замова №4829.
Рэдакцыйны адрас: 220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

